

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 8(79) Жнівень 2000 August Год выд. 8.







**Спадар Кастусь ВАЙЦЯХОЎСКІ —**

**ведамы беларускі культурны, палітычны і рэлігійны дзеяч у ЗША., руплівы працаўнік на ніве беларускага адраджэньня і дзяржаўнасьці, вялікі патрыёт свайго народу.**

**Дарагі Кастусь! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**

Дзяржаўныя мужы Беларусі

# ЛЕЎ САПЕГА

Сярод зорак беларускай гісторыі Льву Іванавічу Сапегу належыць адно з найпершых месц. Сапраўды, ад часоў Рагвалода і да часоў навейшых ніхто не здолеў так канкрэтна і паслядоўна адстойваць і сцвярджаць ідэю дзяржаўнай незалежнасці Бацькаўшчыны, як ён. Уяўленне аб Радзіме, якая выгадавала і надала жыццёвых сілаў, як аб прасторы між спрадвечных лясоў, рэк і азёраў, аб акрэсах існавання старажытнай і адметнай культуры са сваёй мовай і традыцыямі — вось погляд на матчыну зямлю канцлера Вялікага Княства Льва Сапегі. І гэта не дзіўна, бо таленавітыя людзі заўсёды адчуваюць сваю існасць у часе, прасторы, культурным асяроддзі.

Будучы канцлер у юначыя гады атрымаў бліскучую адукацыю. Напачатку ён вучыўся ў радзівілаўскай рэфармацыйнай школе ў Нясвіжы. Потым скончыў Лейпцыгскі універсітэт. Малады Леў дасканала валодаў грэцкай, лацінскай, нямецкай і польскай мовамі, не кажучы пра сваю родную, беларускую. Ужо ў гады вучобы Л.Сапегу прыцягвалі філалагічныя і юрыдычныя навукі. Асаблівую ўвагу ён звяртаў на вывучэнне законаў еўрапейскіх краін і, натуральна, Вялікага Княства. Незвычайная логіка мысленьня, бездакорная памяць і выдатнае веданне законаў дапамаглі яму выйграць судовую маёмасную справу ўласнага бацькі. Леў выступіў у ролі адваката. Даследчыкі адзначаюць, што невядома, быў Іван Сапега правы ці не, але, бліскуча выйграўшы справу, юнак звярнуў на сябе ўвагу самога караля і вялікага князя Стэфана Баторыя.

Праз юрыдычную дасведчанасць і актыўны ўдзел у вайсковай кампаніі 1579 г. супраць Маскоўшчыны за вяртанне адабраных спрадвечных беларускіх земляў, пачалася палітычная кар'ера Льва Сапегі.

Падчас вайсковай выправы Леў Сапега за ўласныя сродкі сфармаваў і ўзначаліў харугву. Акрамя таго, рабіў прапановы па ўдасканаленню законаў дзяржавы. Ягонай першай дзяржаўнай прыступкай стала пасада сакратара Вялікага Княства, пасля — найвышэйшага пісара Дзяржаўнай Канцыляріі Вялікага Княства і, нарэшце, у 1589 г. — канцлера.

На ўзыходжанні па гэтай адміністрацыйнай лесвіцы Леў Іванавіч Сапега праявіў сябе як умелы і прадбачлівы палітык.

На пасадзе пісара разам з Астафеем Валовічам і Кшыштафам Радзівілам Пярунам яны



ўтварылі Трыбунал Вялікага Княства — вышэйшы апеляцыйны гаспадарчы суд. Пасля, у 1584 г., было вялікае пасольства ў Маскву, якое мела на мэце заключыць мірную дамову. На чале пасольства стаяў Леў Сапега. У складаных варунках маскоўскага палітычнага жыцця пасля смерці Івана Жахлівага і ўзыходу на прастол царэвіча Фёдара, дамова ўсё ж была заключана. Найбольш нечаканым вынікам перамоваў было тое, што малады, як некаторыя лічылі, дурнаваты цар згадзіўся адпусціць без усялякага выкупу 900 беларускіх вязняў, якія трапілі ў маскоўскі палон падчас захопніцкай вайны 1563 г.

Вышэйшым дасягненнем жыцця і працы Льва Сапегі, безумоўна, з'явіўся Статут Вялікага Княства, які быў падпісаны каралём і вялікім князем Жыгімонтам 28 студзеня 1588 г. У прадмове да Статута Л.Сапега пісаў: "Як казаў Цыцэрон, мы з'яўляемся нявольнікамі правоў для таго, каб карыстацца свабодаю маглі... Бо не толькі сусед і сумесны наш жыхар у Бацькаўшчыне, але і сам гасудар пан наш ніякага верхавенства над намі ўжываць не можа, адзінае столькі, колькі яму права дапускае... народу сорамна права свайго не ведаць, асабліва нам, якія не чужою якою моваю, але ўласным правам запісанае маем".

Статут быў унікальнай з'яваю ў тагачаснай еўрапейскай юрыспрудэнцыі. Нездарма па сённяшні дзень яго вывучаюць ва ўсіх еўрапейскіх універсітэтах на юрыдычных факультэтах. (Калі ўлічыць, што ў адрозненне ад нашых "кухарчыных дзяцей" сусветныя палітыкі ў пераважнай большасці юрысты, то ўвесь свет вывучаў і ведаў Статут, акрамя нас да пэўнай часіны).

Пра адметнасць Статута 1588 г. гаворыць і тое, што ён праіснаваў і дзейнічаў на Беларусі 252 гады да адмены яго пры Мікалаі I. Актам яго

*(Працяг на 2-й стар.)*

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)*

скасавання канчаткова ліквідавалася беларуская дзяржаўнасць, і Беларусь ператварылася ў правінцыю Расейскай імперыі.

Не было нічога дзіўнага, што дзеянне Статута 1588 г. скасоўвалася асобным указам, бо асноўнай мэтай гэтага зборніка законаў было сцвярджэнне дзяржаўнай самастойнасці беларускага гаспадарства ва ўмовах, калі ўсё больш адчуваўся ўціск і прэтэнзіі з боку Польшчы на пяршынства ў федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Статут замацоўваў палітычныя адзнакі дзяржавы: урад, заканадаўчы орган — Вальны Сойм (па-сучаснаму — парламент), Трыбунал (Вярхоўны суд), Дзяржаўную канцылярыю (Міністэрства замежных спраў), войска. Зацвярджалася непарушнасць межаў Вялікага Княства і фактычна грамадзянства жыхароў. Асобны артыкул забараняў чужаземцам мець на землях Княства нерухомую маёмасць, займаць духоўныя і свецкія пасады. Апошняе палажэнне нават выклікала аднойчы зацяглую спрэчку Льва Сапегі з каралём Жыгімонтам III Вазаю, які наважыўся пасадзіць на вакантную Віленскую катэдру біскупа-паляка Бярнарда Маціеўскага. Леў Сапега, трымаючыся Статута 1588 г., сваёй згоды на гэта не даў. Толькі праз доўгія дзесяць гадоў гэтая спрэчка вырашылася на карысць канцлера. Біскупам стаў беларус Бенедыкт Война. Пасля спрэчкі за віленскае біскупства, усе падрыхтаваныя Жыгімонтам указы і граматы па Вялікім Княству кароль накіроўваў на зацвярджэнне да Сапегі. Канцлер адзіны меў права ставіць на іх дзяржаўную пячатку. Такім чынам, ніводная дзяржаўная справа не мінала Л.Сапегу.

Што да самога Статута 1588 г., то Сапега не толькі падрыхтаваў яго, напісаў прадмову, дабіўся падпісання каралём, але і выдрукаваў у віленскай друкарні Мамонічаў летам таго ж года. Гэта дазволіла рэальна распаўсюдзіць закон у дзяржаве для выкарыстання і выканання.

Дбаючы пра ўмацаванне дзяржавы, канцлер не абышоў і духоўна-рэлігійнага пытання. Шматканфесійнасць Беларусі вымагала гнуткай палітыкі па ўладкаванню спрэчак, якія ў асноўным разгараліся паміж хрысціянамі: праваслаўнымі, каталікамі і пратэстантамі. Апалячванне шляхты праз касцёл, а таксама прэтэнзіі ўтворанага ў 1589 г. Маскоўскага патрыярхату на "трэці Рым" і ўсю "рускую" спадчыну, падштурхнулі Льва Сапегу да стварэння нацыянальнай царквы. Ідэя не была новай, але патрабавала рэальнага ўвасаблення. Будучы сам каталіком, канцлер усё ж дамогся кампрамісу паміж папскім прастолам і праваслаўнымі беларускімі іерархамі на чале з Міхаілам Рагозаю. У кастрычніку 1596 г. на саборы ў Берасці была падпісана грамата аб стварэнні уніяцкай царквы. Гэтым актам прызнавалася духоўнае валадарства Рымскага папы, але ў беларускіх цэрквах захоўвалася грэка-візантыйская абраднасць, юліянскі каляндар, старажытнабалгарская мова Святога Пісання і беларуская — казанняў. Зберагалася маёмасць царквы, ёй надаваліся роўныя правы з касцёлам.

Аднак далейшае суіснаванне трох цэркваў (частка праваслаўных адмовілася пераходзіць у вунію) не было бясхмарным. Адстойваючы інтарэсы дзяржавы, спрыяючы распаўсюджванню уніі, Леў Сапега тым не менш стаяў на баку закона і хрысціянскай міласэрнасці. Калі архібіскуп Полацкі і Магілёўскі Язафат Кунцэвіч надзвычай жорстка пачаў абыходзіцца з праваслаўнымі вернікамі, канцлер у лісце да яго пісаў: "Вы... кіруючыся славалюбствам ды прыватнай нянавісцю, насуперак святой волі і закону Рэчы Паспалітай распалілі тыя небяспечныя іскры, якія ўсім нам пагражаюць усёзнішчальным пажарам". Разам з тым, нягледзячы на сваю непрыязнасць да Кунцэвіча, пасля забойства архібіскупа, злачынцы былі пакараны праз суд. На судзе, які ўзначальваў сам Л.Сапега, вінаватыя ў забойстве Кунцэвіча мелі магчымасць абараняцца праз адвакатаў.

Напрыканцы жыцця, у 1625 г., Леў Сапега стаў вялікім гетманам Літоўскім. Па-сучаснаму — маршалам. Ён не толькі кіраваў войскам, але, як сапраўдны патрыёт, падчас нападу на Княства шведскага караля Густава-Адальфа, ахвяраваў усю сваю маёмасць і каля 40 тысяч фларынаў на падтрымку збройнага чыну. Як слушна адзначае гісторык І.Саверчанка, толькі дзякуючы Льву Сапегу Вялікае Княства заўчасна не знікла з палітычнай мапы Еўропы.

Памёр Леў Іванавіч Сапега 7 ліпеня 1633 г. у Вільні. Пахаваны там жа, у касцеле Св.Міхала.

Сапраўды, гісторыя Беларусі другой паловы XVI — пачатку XVII стагоддзяў — эпоха Сапегі. Дзяржава трымалася на ім, як на казачным валаце. Гэта быў адданы, самаахвярны патрыёт, для якога найвышэйшым ідэалам была вера ў Бога і годнасць незалежнай Бацькаўшчыны.

**Сяргей ТАРАСАЎ.**

# Найперш, незалежнасць

**«Катастрофа, якой стала антынародная дыктатура Лукашэнкі, перавышае наступствы Чарнобыльскай аварыі. Наступствы Чарнобыля ахапілі толькі пятую частку Беларусі, а палітыка існуючага рэжыму абдымае тэрыторыю ўсёй краіны», — гаворыць выдатны беларускі пісьменнік Васіль Быкаў у размове з карэспандэнтамі польскай** *Gazety Wyborczej* Войцэхам Мазярскім і Вольгай Гардзейчык

***— Як гэтак сталася, што мы сустракаемся ў Берліне?***

— У гэтым няма нічога незвычайнага. Сёння ўжо можна выехаць з Беларусі, нават калі гэта звязанае з меншымі ці большымі цяжкасцямі. У Германію я прыехаў на запрашэнне тутэйшага ПЭН-клуба, які фундуе мне стыпендыю на паўгода творчай працы.

***— Спадар Васіль, вы няправільна нас зразумелі. Нас дзівіць не тое, што Вам удалося выехаць з Беларусі, — але тое, што Вы мусіце шукаць за мяжой умовы для спакойнай творчай працы. Перад прыездам у Берлін Вы жылі ў Фінляндыі.***

— Так, я паўтара года прабыў у Хельсінках. Лічу, што месца кожнага чалавека — найперш ва ўласным доме. А тым болей, месца пісьменніка, які з роднай глебы чэрпае натхненне для творчасці. Аднак гэта ёсць ідэальны стан, а на практыцы свет уладкаваны гэтак, што спакойнага прытулку часта трэба шукаць далёка ад айчыны. Асабіста мяне гэта напаткала.

Абставіны, якія пануюць сёння на Беларусі, не спрыяюць пісьменніцкаму занятку ці наогул – мастацкай творчасці. Па доўгім часе, калі я выступаў супраць пануючага ў маёй краіне рэжыму, я адчуў, што мушу выехаць за мяжу. Не хацелася б, аднак, каб гэта прымалі за эміграцыю.

***— Гэта значыць, што ўмовы, уладкаваныя на Беларусі, не спрыяюць творчасці?***

— Відавочна, што эканамічныя абставіны жыцця там цяжкія, але галоўнае – не яны. Перад усім невыносным зрабіўся палітычны клімат. Я асабіста стаў аб'ектам нападаў афіцыйнай прапаганды, якая намагаецца прадставіць мяне як ворага народа. Дыктатар узяў кантроль над сферай культуры, а таксама над паліграфіяй ды іншымі тэхнічнымі сродкамі, што паставіла ў цяжкую сітуацыю ўсё пісьменніцкае жыццё краіны. Нашая мова, нашая культура, нашае духоўнае жыццё знішчаюцца. У гэтакіх абставінах я проста не мог жыць і пісаць. І так мушу лічыць за шчасце, што выехаў, бо мноства беларускіх творцаў не маюць шанца на такі выезд, як у мяне.

***— У СССР культура народаў, падначаленых імперыяй, знішчалася ў імя камуністычнай ідэалогіі. Сёння ў схільнасці да той ідэалогіі ніхто ўжо не прызнаецца. Дзеля чаго тады Аляксандр Лукашэнка так накіравана ваюе супраць усяго беларускага?***

— Сёння сітуацыя яшчэ больш горшая, чым была ў часы СССР. Тады бальшавікі як найменш стараліся стварыць карціну развіцця нацыянальных культураў. Афіцыйная мадэль культуры абавязвала быць «нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце». Відавочна, існавала цэнзура, якая вынішчала ўсялякую незалежную думку, аднак захоўвала рэквізіты, знешнія атрыбуты нацыянальных культураў. Гэта давала творцам свабоду манеўра – на вузкім полі, вызначаным уладамі, нешта ўдавалася зрабіць.

***— Сёння няма нават таго вузкага поля. Дыктатар праводзіць палітыку свядомага і бязлітаснага вынішчэння беларускай мовы. Следам нішчыцца нацыянальны тэатр, нацыянальны жывапіс ды іншыя сферы творчасці і духоўнага жыцця беларусаў.***

— Дзеля чаго Лукашэнка гэта робіць? Ясна – дзеля інтэграцыі Беларусі з Расійскай імперыяй. Як усім вядома, імперыя абавязвае да адзінай веры, адзінай мовы і адзінай улады.

***— Ці лічыце Вы, што прыхільнікі інтэграцыі здолеюць дасягнуць сваёй мэты?***

— Калі я бачу, з якой упартасцю яны стараюцца гэта выканаць, прыходжу да думкі, што магчыма так. І інтэграцыя з Расіяй, і вынішчэнне нацыянальнай культуры пагражае стаць цалкам рэальнай.

***— Ваш песімізм вынікае з новай кнігі апавяданняў «Сцяна», пераклад якой на польскую мову зараз выйшаў у свет. Ці сапраўды Вы лічыце, што беларусаў чакае такая шэрая будучыня? Ці можа Вы хочаце папярэдзіць і мабілізаваць землякоў?***

— Песімізм — гэта іманентны стан беларускага этнасу. Напраўду наш народ яшчэ існуе, але з часоў упадку Вялікага Княства Літоўскага ў нашай гісторыі не адбылося нічога, што давала б падставу для аптымістычнай надзеі на будучыню. Было толькі горш і горш.

Вам таксама не было надта добра, але ў XX стагоддзі Польшча захавала найменш фармальную незалежнасць, дзякуючы чаму цяпер можа будаваць суверэнны быт. Мы не мелі такога шчасця, хоць пачыналі паўстанні і прымалі такія спробы, як абвяшчэнне ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Да гэтага часу мы не можам дасягнуць незалежнасці, і гэта ёсць прычынай майго асабістага песімізму.

***— Мы вярнуліся з Мінска, які адметна нас уразіў. Згодныя з Вамі, стан цяжкі, беларуская культура і ўсякая незалежная думка душацца, але, нам здаецца, што ідзе працэс фармавання новага беларускага самаазначэння. Нягледзячы на перасьледы, выходзяць газеты і часопісы, моладзь прыходзіць на канцэрты беларускіх рок-гуртоў, адбываюцца патрыятычныя дэманстрацыі. Адзін з нашых суразмоўцаў звярнуў увагу: усё тое, што мае якую-небудзь вартасць у мінскім культурным і інтэлектуальным жыцці, робіцца на беларускай мове. Руская мова – гэта мова афіцыйнай прапаганды і эстраднай поп-культуры. Гэта сведчыць, што ў беларускай культуры дрэмле патэнцыял, які ў будучыні стане яўным. Працэс можа цягнуцца дастаткова доўга, але гэта нармальны накірунак.***

— З гэтым «добрым накірункам» мы ўжо не раз сутыкаліся. Кожны з гэтых нашых «добрых кірункаў» скончыўся катастрофай, з якіх апошняя была самая балючая. Мы афіцыйна дэкларавалі існаванне суверэннай краіны Рэспублікі Беларусь. Гэтая дзяржава мела ўрад і розныя інстытуцыі – сцяг, герб, дзяржаўную мову і іншыя атрыбуты незалежнасці. І гэта быў той самы «добры кірунак». І ўсё гэта раптам знікла. Не ў выніку франтальнага сутыкнення з якім-небудзь знешнім ворагам, а з-за здрады

кіруючых элітаў, якія адвярнуліся ад сваёй дзяржаўнасці і пачалі праводзіць палітыку яе знішчэння.

***— Можа, гэтая суверэннасць была скроеная «на вырост»? Цэнтр імперыі знаходзіўся ў Маскве, а не ў Мінску. Беларусь апынулася ў сітуацыі калоніі, якая знянацку атрымала незалежнасць і якую яшчэ не змагла ўсвядоміць. Сацыялагічныя даследаванні паказваюць, якія сапраўдныя прапорцыі сілаў у беларускім грамадстве. І на самой справе зараз даспяваюць і кансалідуюцца сілы, якія стануць фундаментам будучай незалежнасці. Той сапраўднай, завяванай сваімі сіламі.***

— Магчыма. Найвялікшы парадокс — тое, што пра распад Саюза было вырашана менавіта на тэрыторыі Беларусі, у Белавежскай пушчы. Сапраўды, гэта адбылося так неспадзявана, што ні ў Беларусі, ні ва Украіне, ні нават у Расіі ніхто не быў да гэтага падрыхтаваны. Гатовыя да пабудовы суверэнных дзяржаваў былі толькі краіны Балтыі і некаторыя ўсходнія рэспублікі. Насельніцтва Беларусі засталося цалкам залежным ад развіцця выпадкаў, у той час як бальшавіцкі істэблішмент зрэагаваў варожа на самую думку ўтварэння незалежнай дзяржавы. Ужо ў час стварэння Рэспублікі Беларусь стары апарат, які да гэтага часу кіруе ў Мінску, пачаў сабатаваць і байкатаваць новую дзяржаву. Непадрыхтаванае грамадства не здолела працівіцца, і ў выніку маем тое, што маем,– поўную катастрофу.

***— Але ж гэтая катастрофа не бясконцая. Беларусы проста прайгралі бітву, да якой не былі падрыхтаваныя. Зараз рыхтуюцца і збіраюць сілы. У 1990 годзе ў адным з інтэрв'ю Вы сказалі так: «Кожнае грамадства мусіць прайсці вызначаную лёсам дарогу да дэмакратыі, не ўдасца пераскочыць ніводнага з этапаў». Адкуль узяўся ваш цяперашні песімізм?***

– Тады я быў перакананы, што гэты, на самой справе доўгі працэс, будзе аднак развівацца і паступова прыносіць плён. Што будзе ўзрастаючая лінія. Не прадугледжваў гвалтоўнага рэгрэсу. Прашу памятаць, што гэта я сказаў яшчэ перад маскоўскім путчам у 1991 годзе і перад распадам СССР. Лічыў тады, што трэба ўсё рабіць паступова, нічога радыкальнага, каб не выклікаць рэакцыі з боку абаронцаў імперыі. Аказалася ж, што поспеху дасягнулі тыя, хто хутка і адразу вырваліся на волю, як літоўцы. Народы, якія паставілі на паступовую і мяккую трансфармацыю, спыніліся на паўдарозе. Гэта датычыцца не толькі Беларусі і Украіны, а таксама і Расіі, якая топчыцца на месцы, і зусім невядома, ці ўдасца ёй пабудаваць дэмакратычную сістэму.

***— У публіцыстычным тэксце 1988 года Вы, спадар Васіль, пісалі: «Найбольш небяспечны наш вораг той, каго нарадзіла наша мінуўшчына і які трымаецца ў нас саміх». На колькі сённяшняя дыктатура на Беларусі створаная праз таго ўнутранага ворага, які дрэміць у душах грамадзянаў.***

— У пэўным сэнсе дыктатура — вынік працы ўнутранага ворага. А таксама вынік не да канца сфармаванай самасвядомасці беларусаў. У гэтай частцы Еўропы гісторыя праходзіла гэтакім чынам, што беларусы не мелі выпадку ўзмацнець як народ. Шэраг пакаленняў выхоўваліся ў чужым атачэнні, у чужых асяродках культуры, не ў сваёй дзяржаве. Таму цяжка дзівіцца, што людзі, выхаваныя ў такіх варунках з такой недастатковай нацыянальнай свядомасцю, аказаліся не ў стане стварыць дастатковую палітычную базу для дзеячаў, якія прадстаўлялі беларускі рух за дэмакратыю і незалежнасць.

***— Часам можна сустрэцца з меркаваннем, што Беларускі Народны Фронт, ачолены Зянонам Пазьняком, не навярнуў да сябе людзей сваёй непахіснай скіраванасцю на беларускую дэмакратычную ідэю. Што такім чынам ён адарваўся ад народа. Гэтую няслушную і несправядлівую думку фармулююць не толькі праціўнікі Беларусі – часам яго можна пачуць і ў дэмакратычным лагеры.***

— А між тым, менавіта дзякуючы толькі гэтакай палітыцы прапаганды беларускасці частка грамадства абудзілася і зразумела, што можа чэрпаць ідэі і патрабаванні з таго, што ёсць беларусамі. Сёння 10% нашага грамадства – свядомыя беларусы. У іншых абставінах гэтыя 10% былі б ферментам росту. Калі б мы жылі ў суверэннай і дэмакратычнай дзяржаве, колькасць свядомых беларусаў радыкальна ўзрастала б і магчыма, што працэс фармавання свядомага беларускага народа хутка б узрастаў. Але паколькі мы страцілі дзяржаву, то да тых 10% не далучылі наступныя групы.

***— Нам здаецца, што нават у цяперашніх неспрыяльных варунках гэтыя 10% уплываюць на іншых, у прыватнасці, на маладзёжнае асяроддзе. Памятаеце, спадар Васіль, фільмы, знятыя на дэманстрацыях у Мінску? Бачныя там найбольш твары студэнтаў і навучэнцаў, падлеткаў, якія ў дарослае жыццё ўжо крочаць як беларусы, арыентаваныя на Еўропу.***

— Можа з боку відаць лепш. Вельмі хацелася б, каб вы мелі рацыю. Можа гэта таксама прыкмета веку – вы маладыя і таму маеце болей схільнасці да аптымістычнага погляду на рэчаіснасць.

***— Калі ўлады заблакавалі друк Вашай апошняй кнігі, самі чытачы арганізаваліся, сабралі грошы і дзякуючы гэтаму кніга была выдадзеная. Іншымі словамі — беларускія чытачы паказалі, што ім вельмі важна, каб беларуская кніга друкавалася. Ці не схіляе гэта Вас, спадар Васіль, да больш аптымістычнага погляду на стан духу свайго народа?***

— Гэта выключны выпадак, які не дае падставы для абагульненняў пра сітуацыю з беларускім пісьменствам. Беларуская літаратура сёння ў стане катастрафічнага заняпаду. Не з прычыны браку таленавітых аўтараў і добрых тэкстаў, колькі ў выніку палітыкі ўладаў, скіраванай на выцісканне беларускай мовы з жыцця грамадства і замены яе мовай расійскай. Ці можна сабе ўявіць большую катастрофу для нацыянальнай культуры? Уплыў гэтай трагедыі перабольшвае памеры чарнобыльскай бяды, бо наступствы Чарнобыля закранулі адну пятую тэрыторыі Беларусі, а моўная палітыка рэжыму ахоплівае тэрыторыю ўсёй краіны.

Высілкі незалежных выдаўцоў і суполак грамадзянаў ніяк не ў стане змяніць гэтай сітуацыі. У 80-х гадах шэсць тамоў маіх твораў выйшлі накладам 76 тысяч асобнікаў. Такімі тыражамі друкавалася тады беларуская кніга. Між тым, як выдадзеная дзякуючы чытацкай перадаплаце «Сцяна», з'явілася ў 1988 годзе тыражом 750 асобнікаў.

***— Але гэта немагчыма параўноўваць. У СССР дзяржава датавала кнігі, а «Сцяна» выдадзеная без ніякіх датацыяў дзякуючы грамадскай ініцыятыве. У Польшчы таксама кніжныя наклады зараз значна меншыя, чым у часы ПНР.***

— Гэта праўда, датацыі скончыліся. Людзі зараз мусяць змагацца з цяжкасцямі жыцця пры перманентным эканамічным крызісе і наогул перасталі купляць кнігі. Гэта толькі паглыбляе заняпад выдавецкага рынку.

***— Ці могуць прыхільнікі беларускай дэмакратычнай ідэі разлічваць на прыязнасць і дапамогу з боку дэмакратычных сілаў Расіі? Ведаем, што ў 1994 годзе Вы атрымалі ад прэзідэнта Барыса Ельцына Ордэн Дружбы – і беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка аж тры гады не дапускаў уручэння Вам гэтай адзнакі.***

— Шмат гадоў я меў добрыя кантакты з дэмакратычнымі коламі расійскай інтэлігенцыі, супрацоўнічаў з маскоўскай прэсай. Падтрымліваў расійскіх дэмакратаў і чуў ад іх, што я таксама магу разлічваць на іхнюю падтрымку. Уласна, гэта мае тагачасныя прыяцелі і саюзнікі былі ініцыятарамі адзнакі мяне тым ордэнам.

***— Аднак гады два-тры таму, калі я пачаў публічна крытыкаваць Лукашэнку, беларускія ўлады распачалі кампанію прапаганды з мэтай скампраметаваць мяне ў вачах свету і Масквы. Лукашэнка асабіста заявіў, што Быкаў — ашалелы нацыяналіст, які дамагаецца ад Расіі вяртання Смаленшчыны, ад Польшчы — Беластоцкага ваяводства. Паведаміў гэта непасрэдна пасля таго, як у 1995 годзе ў Мінску паўстаў з маёй ініцыятывы Беларускі Хельсінкскі Камітэт для пільнай увагі за парушэннямі правоў чалавека.***

— Са здзіўленнем я канстатаваў, што гэтая кампанія абсурднага ачарнення дала ў Расіі плён. Многа маіх ранейшых прыяцеляў перасталі са мной размаўляць, убачылі ва мне такога ворага, які жадае

(глядзі далей на 4-ай бач.)

# Беларускія асяродкі культуры ў Варшаве

**Па запрашэнню фундацыі "Польска-чэская-славацкая салідарнасць" мне два тыдні давялося вучыцца на камп'ютэрных курсах у Варшаве. Трапіўшы ўпершыню ў гэты сталічны горад, без належнага валодання мовай, нейкі час адчуваеш сябе псіхалагічна няўтульна. Аднак арганізатары курсаў улічваюць гэту акалічнасць і наладжваюць для сваіх гасцей сустрэчы, знаёмствы з землякамі, якія жывуць і працуюць у польскай сталіцы. Былі такія знаёмствы і ў мяне.**

Першым месцам, куды давялося завітаць, стаў беларускі аддзел фундацыі "Ідэя", які арганізуе семінары, ладзіць розныя культурныя мерапрыемствы для беларусаў у Польшчы, а таксама фінансуе некаторыя сацыяльныя і выдавецкія праекты. І хоць каардынатара праграмы Паўла Казанецкага на месцы на той час не аказалася, мяне гасьцінна сустрэла супрацоўніца Тацяна. Расказаўшы пра сваю працу ў Польшчы, яна з цікавасцю распытвала ў мяне пра жыццё Беларусі. Тацяна родам з Пастаўшчыны, дзе жыве яе маці, і яе, натуральна, цікавіць усё, што адбываецца на Радзіме. Але здзівіла мяне тое, што за няпоўную гадзіну, якую я прабыў у "Ідэі", туды завітала некалькі чалавек з Беларусі па параду ці дапамогу. Падумалася тады, што за мяжой і беларусы робяцца больш салідарнымі паміж сабой.

У тым, што свет цесны, давялося пераканацца ў беларускай рэдакцыі польскага радыё, куды мяне запрасілі на інтэрв'ю. Аказалася, што з журналісткай радыё "Полонія" Вольгай Гардзейчык мы ў свой час разам вучыліся ў Белдзяржуніверсітэце, толькі яна была на курс маладзейшай. Тут я даведаўся, што беларуская рэдакцыя радыё існуе ў Польшчы ўжо шэсць гадоў, налічвае восем супрацоўнікаў і цалкам фінансуецца польскім урадам, так як і іншыя замежныя рэдакцыі. Вольга Гардзейчык, карэнная мінчанка, якая выйшла замуж за польскага журналіста, не толькі па абавязках сваёй працы не парывае сувязяў з Радзімай, але з'яўляецца адным з арганізатараў Беларускага інстытута культуры ў Варшаве. Гэта грамадская навукова-культурніцкая арганізацыя яшчэ знаходзіцца ў стадыі станаўлення і мае на мэце згуртаваць вакол сябе беларускую інтэлігенцыю і навукоўцаў, якія воляй лёсу жывуць і працуюць у Польшчы.

На вуліцы імя Гагарына ў Варшаве ўжо каля шасці гадоў дзейнічае Цэнтр славянскай культуры і пісьменнасці. Узначальвае яго беларус з Беласточчыны Ян Заброцкі. Спадар Ян штодзень сустракаецца з людзьмі самых розных нацыянальнасцяў з розных куткоў свету, арганізоўвае канферэнцыі, сустрэчы, канцэрты. Але найпершы яго клопат — прапаганда і распаўсюджванне ў Польшчы кніг славянскіх аўтараў. Сюды прывозяць свае кнігі беларускія, украінскія, рускія, балгарскія, чэшскія, славацкія і іншыя славянскія пісьменнікі. У Цэнтры мне давялося пагутарыць з прафесарамі польскай і ўкраінскай філалогіі. І хоць спадар Ян імкнецца не дапускаць у сваёй "рэзедэнцыі" размоў на палітычныя тэмы, у гутарцы пра сучасную культуру, гісторыю і літаратуру польскага, украінскага і беларускага народаў наша гутарка непрыкметна перайшла ў рэчышча палітыкі, і ў прыватнасці — моўнай палітыкі гэтых трох суседніх дзяржаў. На жаль, у гэтым пытанні мы, беларусы, пачуваемся горш за ўкраінцаў, не кажучы ўжо пра палякаў. Але і беларуская кніжка, па словах Яна Заброцкага, знаходзіць свайго чытача. Добра прадаюцца беларускія выданні ў самой Варшаве і цэнтральнай Польшчы. І вельмі засмучае спадара Яна той факт, што на яго роднай Беласточчыне беларуская кніжка апошнім часам застаецца амаль незапатрабаванай. У Варшаве ж, на Гагарына 15, можна сустрэць і японца, які вельмі добра размаўляе па-беларуску. І паспрабуй, зразумей гэтых японцаў, якія цікавяцца Беларуссю, вывучаюць яе мову, ведаюць гісторыю, калі самі беларусы на Радзіме да гэтага абыякавыя. А можа меў рацыю паэт, калі напісаў, што "каб любіць Беларусь сваю родную, трэба ў розных краях пабываць..."?

Мікола КАНАНОВІЧ -- "Газэта Слонімская"

Мы змагаемся за беларускую БЕЛАРУСЬ!

падзелу расійскай дзяржавы. Паверылі Лукашэнку, а не мне.

***— Афіцыйная прапаганда беларускіх уладаў намагаецца таксама ачарніць Вас у вачах беларускай грамадскай думкі.***

— Калі я вярнуўся ў Мінск пасля паўтарагадовага побыту ў Хельсінкі, дык ужо праз два дні па прыездзе ў сродках масавай інфармацыі з'явілася мноства матэрыялаў, якія выкрывалі мяне як ворага народа, а ў дадатак і як кепскага пісьменніка.

Пачаў думаць, што і мяне можа напаткаць такі самы лёс, які напаткаў некаторых нашых дэпутатаў і былых міністраў – якія таямніча знікалі ці трапляні ў вязніцы за абвешчаныя ім крымінальныя злачынствы. Тады я вырашыў выехаць у Германію і сваёй прысутнасцю не псаваць настрой нашаму дыктатару. Відавочна, такім чынам падараваў сабе колькі месяцаў спакойнага жыцця.

***— Спадар Васіль, Вы толькі пісьменнік ці таксама і палітык?***

— Ніколі не быў палітыкам і ніколі не хацеў ім быць. Заўсёды хацеў захаваць асабістую незалежнасць і таму ніколі не ўступаў у камуністычную партыю. Памятаю, што ў часы СССР мае прыяцелі, якія былі ў партыі і ўдарыліся ў дысідэнцкую дзейнасць, пераследаваліся – іх выкідалі з партыі, здымалі з кіруючых пасадаў, пазбаўлялі працы. А мне ніхто нічога зрабіць не мог. Кіруючых пастоў я не займаў, да партыі не належаў – не было адкуль мяне выкінуць. Меў спакой і ўнутры адчуваў сябе вольным.

Але ў 80-х гадах абралі мяне – уласна кажучы, выслалі – у Вярхоўны Савет СССР. Ніхто мяне не спытаў, ці хачу быць дэпутатам. Стаў ім, але стараўся нічога не рабіць і пры кожным зручным выпадку выкручваўся ад удзелу ў паседжаннях. Калі распалася імперыя і паўстала незалежная Беларусь, палічыў сваім абавязкам далучыцца да стварэння Народнага Фронту. Так мне падказвала сумленне. Выступаў супраць дыктатуры, найперш камуністычнай, а потым — лукашэнкаўскай. Лукашэнку крытыкаваў яшчэ ў той час, калі ён толькі прэтэндаваў на крэсла прэзідэнта.

***— 12 гадоў я пражыла ў Мінску ў асяроддзі людзей, якія размаўляюць толькі па-беларуску. Цяпер маю ўжо дзяцей, якія выносяць з дому знаёмства з беларускай мовай, мовай айчыны. Якая будучыня Айчыну чакае?***

— У жыцці кожнага народа найважнейшае ёсць суверэнная дзяржава. Толькі яна дазваляе вырашаць праблемы. Калі будзем мець незалежную Беларусь, будзем мець умовы і для культурнага, нацыянальнага, эканамічнага, любога іншага развіцця. Калі ж такой дзяржавы не будзе, калі Беларусь стане адной з правінцыяў расійскай імперыі – дык хутка нічога не застанецца, беларуская культура знікне з паверхні Зямлі. "Наша Свабода"

# А гэта цікава...

*На беларуска-польскай мяжы пачаўся дэмантаж калючай агароджы і сыгналізацыі. Гэта пакуль зроблена толькі на адным адмежку – адразу ўся агароджа зьнішчацца ня будзе. Аднак усё роўна гэта падзея гістарычная. Беларускія ўлады нарэшце наважыліся прыбраць савецкую "жалезную заслону", якая дбайна захоўвалася каля дзевяці гадоў пасьля зьнікненьня СССР.*

Памежнікі пакуль просяць не называць канкрэтна дзе, на якім участку, які ахоўваецца гарадзенскім памежным атрадам, адбыўся дэмантаж калючай агароджы – хочуць паглядзець, як у новых умовах будзе адбывацца ахова мяжы з Польшчай. Гарадзенскі памежны атрад адказвае за 165 яе кілямэтраў.

Якія прычыны гэткага рэвалюцыйнага кроку з боку беларускіх уладаў? Вядома, што адбыліся зьмены ў заканадаўстве. Пераход або спроба пераходу мяжы болей ня будзе лічыцца крымінальным злачынствам як было згодна з савецкімі нормамі закону. Гэта цяпер проста адміністрацыйнае павапарушэньне. Тым самым беларускія ўлады зрабілі крок да лібэралізацыі заканадаўства да эўрапейскіх нормаў. Тым больш, пачаўшы дэмантаж "жалезнай заслоны".

Аднак гэтыя крокі, як вынікае зь меркаваньня саміх памежнікаў, хутчэй вымушаныя. Паводле словаў аднаго з камандзіраў гарадзенскага памежнага атраду, сёньня "жалезная заслона" – гэта элемэнт абароны заходняй дэмакратыі ад нелегальнай міграцыі. Захад, і перш за ўсё Польшча, маўляў, зацікаўленыя ў захаваньні калючага дроту. Яны, нават, нібыта гатовыя фінансаваць рамонт нашай "жалезнай заслоны". Аднак, паводле словаў таго ж афіцэра, сыстэма сыгналізацыі на некаторых адмежках аднаўлялася апошні раз у 1982 годзе. Тэрмін яе службы скончыўся, рамонт абыходзіцца дорага. На такіх участках агароджу трэба або зусім зьнішчаць, або ўзводзіць новую. У савецкія часу абсталяваньне аднаго кілямэтру мяжы абыходзілася ў 1 мільён рублёў. Сёньня такія падлікі не рабіліся. Апроч утрыманьня самой жалезнай заслоны, дорага абыходзіцца яе ахова.

Паводле словаў афіцэраў-памежнікаў на участках, дзе быў прыбраны калючы дрот, сыгналізацыя прымушала групу захопу па дзесяць разоў за ноч выяжджаць на мяжу. За месяц – 300 разоў. Людзі ня сьпяць, бэнзын марнуецца. 99 працэнтаў выездаў былі марныя. Сыгналізацыя рэагавала на зайцоў, дзікоў ды іншых зьвяроў, якія нярэдка калечацца ды гінуць. Памежнікі спадзяюцца ў новых умовах на спрыяньне з боку насельніцтва. За дапамогу ў затрыманьні парушальнікаў мяжы, вяскоўцам будуць плаціць, але колькі канкрэтна – ніхто адказаць ня можа.

Днямі на памежную заставу сапраўды затэлефанаваў жыхар вёскі, што дапамагло затрымаць аднаго аўганца і двух індыйцаў. Праўда на ўчастку гэтай заставы калючы дрот пакуль не месцы.

**Сяргей Астраўцоў, Горадня**

# Тав. Лукашэнка будзе на Алімпіядзе ў Сыднэй, але ў Канбэру яго не запросяць.

Беларусы Аўстраліі перакрылі дарогу для тав. Лукашэнкі трапіць у сталіцу Аўстраліі Канбэру.

Дэпутатка ад Аўстралійскай Рабочай Партыі /якая цяпер знаходзіцца ў апазіцыі/ Нікола Раксон, што прадстаўляе выбарчую акругу "Джэлібрант" штат Вікторыя, разаслала ліст-зварот да ўсіх дэпутатаў і сэнатараў Аўстралійскага Фэдэральнага Парлямэнту, каб на Алімпіядзе 2000 г. у Сыднэй усе дэпутаты і сэнатары ды Аўстралійскія Ўлады пры спатканьні з тав. Лукашэнкам не прызнавалі яго, як Прэзыдэнта Беларусі. Яго 5-ці гадовы тэрмін кончыўся 22-га ліпеня 1999 г. Новых выбараў ён не назначыў. У лісьце прапануецца прызнаваць яго толькі, як старшыню Беларускага Алімпійскага камітэту /на пасаду якую ён сам сябе назначыў/.

Беларусы Аўстраліі выносяць шчырую падзяку для Паважанай Спадарыні Н. Роксон за ліст пра Лукашэнку ды дапамогу беларусам наладзіць спатканьне з Міністрам Іміграцыі Аўстраліі, Паважаным Спадаром Філіпам Радок.

*Аўген Груша,*
Старшыня Фэдэральнай Рады.

Nicola Roxon, MP
Federal Labor Member for Gellibrand
Parliament House
Canberra, Act 2600

4 July 2000

Dear Colleague,

I am writing to you regarding the concerns of the Belarusian community of Australia and their country's attendance at the Sydney Olympics. As you may be attending functions associated with the Olympics, I believe it is important that you are aware of the views of Federal Council of Belarusian Organizations, based in my electorate of Gellibrand.

The constitution of the Republic of Belarus states that the President is elected democratically by popular voting by the majority of citizens of the state and for the term of five years. Mr. Lukashenko has remained in power without any new elections being held.

We are informed that Mr. Lukashenko will be visiting Australia for the Sydney Olympic Games in September 2000. He is President of the Belarusian National Olympic Committee.

The Australian Belarusian community is anxious that the Australian Government and members of Parliament like yourself, do not recognize Mr. Lukashenko as the President of Belarus when he arrives in Australia. The Australian Belarusian community asks that if you meet Mr. Lukashenko during the Olympics celebrations that you recognize him only as the President of the Belarusian National Olympic Committee, since they believe he has lost his democratic mandate to be recognized in any other capacity.

The republic of Belarus in Eastern Europe has experienced a shift toward totalitarian politics under the leadership of Mr. Lukashenko. Although the Republic of Belarus is known for its democratic system of government, this democracy is only nominal and the country is shifting towards a more repressive rule.

I hope that you will be able to assist the cause of democracy in the Republic of Belarus by being alert to these issues if you happen to meet Mr. Lukashenko while he is in Australia.

If you have any questions regarding this I can be contacted on 03 96887 7355. Further the Federal Council would be delighted to talk to you personally if you would like any more detail on this issue. Deputy President Mr. Alex Shnek can be contacted on 03 9587 0336

Yours sincerely,
Nicola Roxon MP
Federal Labor Member for Gellibrand.

**The Federal Council of Belarusian Organizations in Australia thanks Ms. Nicola Roxon for the informative letter to her colleagues and for helping to arrange the meeting with Minister P. Radok of the Immigration office of Australia.**

# Час выбараў азначаны

Выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі 2-га скліканьня прызначаныя на 15 кастрычніка 2000 году.

13-га ліпеня Ўказ аб прызначэньні даты выбараў падпісаў Аляксандар Лукашэнка. Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзеньні нацыянальных рэфэрэндумаў рэкамэндавана скласьці і ўнесьці на зацьвярджэньне кіраўніка дзяржавы каштарыс выдаткаў на выбарчую кампанію.

# НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ.

У ліпені мы атрымалі наступныя выданьні:

1. ГОД БЕЛАРУСКІ 2000, 170 бач., Вільля Сакратас, Крынкі, Польшча

2. СКАРЫНІЧ, Літаратурна-навуковы гадавік, выпуск 4, 239 бач. Масква, Расея

3. ЛЮБІЦЬ І ПОМНІЦЬ, Даніла Міцкевіч, успамінае сын Я. Коласа, 286 бач. Менск, 2000

4. УСПАМІНЫ, Анэля Катковіч і Вэраніка Катковіч, 142 бач., Беласток, Польшча, 1999

5. Belarusian Chronicle, Spring 2000, № 11, 40 p. London, England

6. КАНТАКТЫ і ДЫЯЛОГІ, № 6, 2000, 56 бач., Менск

**«Беларускі Дайджэст» чакае Вашае ахвяры!**

# Кангрэс дэмакратычных сілаў

**Юрась Карманаў, Менск**

Без сюрпрызаў і нечаканасьцяў завершыў сваю працу ў Менску 4-ы Кангрэс дэмакратычных сілаў. Дэлегаты (а іх было больш за 900 чалавек) практычна без дэбатаў прынялі асноўнае рашэньне, якое чакалася ад Кангрэсу, - буйнейшыя дэмакратычныя партыі й рухі ня будуць браць удзел у восенськіх парлямэнцкіх выбарах у цяперашніх варунках. Іншымі словамі, дэмакраты выбары байкатуюць.У выніковай рэзалюцыі пералічваюцца чатыры ўмовы, без выкананьня якіх выбары ня могуць лічыцца вольнымі й справядлівымі -- наданьне парлямэнту рэальных паўнамоцтваў, прывядзеньне выбарчага заканадаўства ў адпаведнасьць з міжнароднымі нормамі, доступ апазыцыі да дзяржаўных СМІ, спыненьне палітычных рэпрэсіяў.

Фактычна (і гэтага не хавалі партыйныя лідэры) рашэньне пра байкатаваньне выбараў сьціраванае ў бок эўрапэйскіх структураў, якія бліжэйшымі днямі павінны прыняць рашэньне пра прысутнасьць (альбо непрысутнасьць) міжнародных назіральнікаў на парлямэнцкіх выбарах. 6 ліпеня ў Бухарэст накіроўваецца лідэр Аб"яднанае грамадзянскае партыі Анатоль Лябедзька, якому (маючы на руках рашэньне Кангрэсу), будзе значна прасьцей схіляць эўрапэйцаў да непрызнаньня беларускіх выбараў. Пра гэта Анатоль Лябедзька казаў у час свайго выступу.



• Кангрэс дэмакратычных сілаў пачаўся спевам «Пагоні» Максіма Багдановіча

**А.Л.:** "Дэлегацыі Вярхоўнага Савету будзе значна прасьцей, маючы на руках рэзалюцыі Кангрэсу, адстойваць рашэньне пра недасыланьне міжнародных назіральнікаў на восенськія парлямэнцкія выбары ў Беларусь. Гэтая паездка ў Бухарэст будзе цяжкаю, бо кіраўнік працоўнае групы па Беларусі ПА АБСЭ Адрыян Севярын вылучае сваю кандыдатуру на пасаду старшыні. Акрамя таго, дэлегацыя Расеі будзе выступаць традыцыйным абаронцам і адвакатам Аляксандра Лукашэнкі".

У сваім выступе на Кангрэсе Анатоль Лябедзька падкрэсьліў неабходнасьць стварэньня свайго (як ён выказаўся), " контрпляну датычна восеньскіх выбараў", які прадугледжваў бы абарону маніфэстантаў і стварэньне ў Беларусі свае інфармацыйнае прасторы. (Пра беларускую інфармацыйную прастору, дарэчы, казала ў сваім выступе на Кангрэсе й прэзыдэнт Беларускае асацыяцыі журналістаў Жана Літвіна, якая сфармулявала палітыкам тое, чаго яны павінна дамагацца ў галіне дэманапалізацыі СМІ.)

Яшчэ адным вынікам Кангрэсу можна лічыць ясную артыкуляцыю адзінства ў шэрагах дэмакратычнае апазыцыі. "Аб кансалідацыі дэмакратычных сілаў" -- гэтак называецца яшчэ адна рэзалюцыя Кангрэсу, якая прадугледжвае стварэньне рэгіянальных Каардынацыйных радаў дэмакратычных сілаў там, дзе іх дагэтуль няма. Сам склад Каардынацыйнае рады дэмакратычных сілаў на Кангрэсе быў значна пашыраны. Акрамя буйнейшых палітычных партыяў (БНФ, АГП, Народнае Грамады), у склад каардынацыйнае рады ўвайшлі Беларуская партыя працы, Беларуская партыя жанчынаў "Надзея", Асамблея няўрадавых арганізацыяў і г.д. Такім чынам, каардынацыйная рада пераўтварылася ў цэнтар прыняцьця скаардынаваных апазыцыйных рашэньняў. Як патлумачыў лідэр БНФ Вінцук Вячорка:

**В.В.:** "За апошні год мы навучыліся пераадольваць свае амбіцыі й працаваць на карысьць агульнае справы. Мы пачалі каардынаваць свае рашэньні, бо толькі разам мы -- сіла".

Дробнаю інтрыгаю Кангрэсу сталася адсутнасьць на ім лідэраў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі пад кіраўніцтвам Пазьняка . КХП БНФ назвала Кангрэс прафанацыяй, аднак (што цікава), шэраговыя сябры КХП удзел у працы Кангрэсу ўсё ж узялі. Пракамэнтаваць сытуацыю мы папрасілі намесьніка старшыні БНФ Вячаслава Сіўчыка:

**В.С.:** "Зараз ня час для сваркаў. Рэгіянальныя сябры КХП БНФ, дарэчы, вельмі добра супрацоўнічаюць на ўзроўні правінцыі з іншымі партыямі й не даводзяць справу да расколу, да якога іх штурхаюць з-за мяжы.

Адказам на абвінавачваньні ў тым, што Кангрэс дэмакратычных сілаў праводзіцца ў піку Ўсебеларускаму зьезду за незалежнасьць стала адмысловая пастанова Кангрэсу, у якой дэлегаты ўхвалілі ідэю Ўсебеларускага зьезду, заклікаўшы ўсе арганізацыі, прадстаўленыя на Кангрэсе, актыўна далучыцца да працы Ўсебеларускага зьезду, які адбудзецца 29-га ліпеня.

Апошнім (у наўпростым сэнсе) акордам працы Кангрэсу стаў канцэрт беларускага барда Віктара Шалкевіча, які сьпявае пра зямлю, дзе даводзіцца жыць.

# Рэзалюцыя

**Кангрэсу дэмакратычных сілаў**
**Аб кансалідацыі дэмакратычных сілаў**

Кангрэс дэмакратычных сілаў заклікае мясцовыя структуры арганізацый-удзельнікаў Кангрэсу да стварэння рэгіянальных Каардынацыйных Радаў дэмакратычных сіл у абласцях, гарадах і раенах, дзе яны яшчэ не створаныя, для эфектыўнай рэалізацыі сумесных палітычных рашэнняў Кангрэса дэмакратычных сіл.

Кангрэс дэмакратычных сіл даручае абноўленаму аргкамітэту падрыхтаваць першае пасяджэнне Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сіл – галоўнага каардынацыйнага воргана, які будзе дзейнічаць да наступнага пасяджэння Кангрэсу на аснове ухваленай Кангрэсам Пастановы аб КРДС.

Кангрэс дэмакратчных сілаў даручае Каардынацынай Радзе дэмакратычных сіл распрацаваць і прыняць Канцэпцыю сумесных дзеянняў дэмакратычных сіл на бліжэйшы перыяд.

## Рэзалюцыя

**Кангрэса дэмакратычных сілаў**
**Аб Каардынацыйнай Радзе дэмакратычных сілаў (КРДС)**

Каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў складаецца з прадстаўнікоў наступных партыяў: АГП, БСДГ, БСДП, БНФ, Беларускай партыі працы, Беларускай Партыі жанчын "Надзея", а таксама прадстаўнікоў Прэзідыюма Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, Асамблеі няўрадавых арганізацый, Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў, Грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя-97", прадстаўнікоў абласных і Мінскай гарадской Каардынацыйных Радаў дэмакратычных сіл. Пры гэтым адна арганізацыя мае адзін голас.

Для вырашэння тэрміновых праблем КРДС можа збірацца ў скарочаным складзе без прадстаўнікоў рэгіянальных структур. Рашэнні па арганізацыі агульнарэспубліканскіх кампаній прымаюцца КРДС з удзелам прадстаўнікоў рэгіянальных Каардынацыйных Радаў.

Для вырашэння складаных праблем КРДС можа ініцыяваць сход Аргкамітэту.

Новыя арганізацыі могуць быць далучаны да працы КРДС рашэннем КРДС.

## Рэзалюцыя

**Кангрэсу дэмакратычных сілаў**
**Аб Усебеларускім Зьездзе за незалежнасць**

**Канстатуючы** рэальную пагрозу незалежнасці Беларусі,

**Выказваючы** абурэнне непрыхаванымі захадамі на здачу суверэнітэту нашай дзяржавы,

**Імкнучыся** да згуртавання ўсіх здаровых сіл грамадства,

Кангрэс дэмакратычных сілаў **пастанаўляе:**

- **Ухваліць** ініцыятыву творчай інтэлігенцыі Беларусі па скліканні Усебеларускага Зъезду за незалежнасць, першая сесія якога адбудзецца 29 ліпеня 2000 г.;
- **Заклікаць** усе арганізацыі, прадстаўленыя на Кангрэсе дэмакратычных сілаў, актыўна падключыцца да арганізацыйна-творчай падрыхтоўкі Усебеларускага Зъезду за незалежнасць праз Аргкамітэт і Рабочую групу.

## Заява

**Кангрэса дэмакратычных сілаў**
**Аб палітычнай сітуацыі**

Дваццаць першае стагоддзе беларускае грамадства сустракае ў стане глыбокага сістэмнага крызісу. Створаная кіруючым рэжымам сацыяльна-эканамічная мадэль паставіла грамадства на мяжу нацыянальнай катастрофы. Беларусь выпала з агульнаеўрапейскіх дэмакратычных працэсаў, аказалася чорнай дзіркай на мапе Еўропы.

Эканамічная палітыка рэжыму вядзе да разбурэння прадукцыйных сіл грамадства, сістэмы сацыяльнай абароны насельніцтва, большая частка якога ўжо за межамі жабрацтва. Краіна жыве за кошт наступных пакаленняў. Нацыянальнае багацце бескантрольна разбазарваецца праз пазабюджэтныя прэзідэнцкія фонды, Упраўленне справамі прэзідэнта, каляўладныя камерцыйныя структуры. Беларусь усё больш пераўтвараецца ў мафіёзную дзяржаву.

Ваяўнічае адмаўленне каштоўнасцяў еўрапейскай дэмакратыі, нормаў міжнароднага права пацягнулі за сабой знешнепалітычную ізаляцыю краіны.

Пасля так званага рэферэндума 1995 года ў краіне распачаўся нечуваны гвалт над беларускай мовай і культурай, зачынена большасць беларускамоўных школаў, класаў і дзіцячых садкоў, адсутнічае беларускамоўная адукацыя ў ВНУ. Беларуская мова не гучыць у дзяржаўных структурах.

Дзейнасць Лукашэнкі зьяўляецца сур'ёзнай пагрозай беларускай дзяржаўнасці. Такая святая для кожнага народа каштоўнасць, як дзяржаўны суверэнітэт, стала разменнай манетай у яго бруднай палітычнай гульні. Кангрэс заяўляе, што дамова аб стварэнні "саюзнай дзяржавы" есць змова неправамоцнай беларускай улады і імперскіх колаў Расіі, скіраваная на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасці Беларусі і яе ўключэнне ў склад Расійскай Федэрацыі. Яна пярэчыць Канстытуцыі і не мае юрыдычнай сілы, паколькі падпісаная нелегітымным прэзідэнтам і ратыфікаваная нелегітымным парламентам.

Канстытуцыйна-палітычны крызіс, які ўзнік у 1996г., перайшоў у крытычную стадыю пасля 21 ліпеня 1999 г., калі закончыўся законны тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі. Дыктатура пазбаўляе наша грамадства магчымасці сапраўднага волевыяўлення. Дзесяцімільённы народ стаў закладнікам авантурнай і злачыннай палітыкі аўтарытарнага правіцеля з ягонымі прымітыўнымі ўяўленнямі аб грамадстве і дзяржаве.

Дзяржаўная ўлада ў Беларусі масава парушае правы і свабоды грамадзян. Забароны і разгон мірных мітынгаў, маніфестацый, шэсцяў, захопы і збіванні, палітычныя пераследы і парушэнні свабоды слова сталі злавеснай прыкметай грамадскага жыцця краіны. Больш за 2 тысячы чалавек прайшлі праз цалкам залежныя ад улады суды па адміністрацыйных і крымінальных справах. Бязвінна пакутуюць у турме дэпутаты Андрэй Клімаў і Уладзімір Кудзінаў, несправядлівыя прысуды вынесены вядомым палітыкам Міхаілу Чыгіру, Мікалаю Статкевічу, Валерыю Шчукіну. Ад палітычных рэпрэсіяў рэжым перайшоў да палітычнага тэрору: бясследна зніклі Юрый Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі.

Растаптаная свабода слова: рэжым зманапалізаваў электронныя СМІ і ператварыў іх у інструмент замацавання дыктатуры ды знішчэння палітычных апанентаў. Незалежныя друкаваныя масмедыя забараняюцца і церпяць ад эканамічнай дыскрымінацыі. У выніку адбываецца татальная экспансія ў Беларусь расійскіх СМІ.

Аднак нельга бясконца ашукваць народ. Расце супраціў рэжыму. Адбыўся перапом грамадскіх настрояў. Апазіцыя змагла дасягнуць кансалідацыі і перайсці ў палітычны наступ.

Кангрэс заяўляе, што адзінства дзянняў усіх

дэмакратычных сіл – вялікі грамадскі набытак, найважнейшая ўмова перамогі над дыктатурай. Асновай еднасці з'яўляецца законна абраны Вярхоўны Савет XIII скліканьня -- адзіны легітымны ворган заканадаўчай улады.

Прыйшоў час спыніць некампетэнтныя, неразумныя і антызаконныя дзеяньні кіруючага рэжыму. Аб'яднаем намаганьні дзеля ўратаваньня нашага агульнага дому – Беларусі!

Жыве незалежная, дэмакратычная Беларусь!

# Зьезд у разьліку на найгоршы сцэнар

*Гутарка з Аляксандрам Старыкевічам*

***Адной з рэзалюцыяў Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў стала заява аб падтрымцы Ўсебеларускага Зьезду за Незалежнасьць. Такім чынам, супярэчнасьці між аб'яднанай палітычнай апазыцыяй і групай інтэлігенцыі, што ініцыявала правядзеньне агульнанацыянальнага форуму за незалежнасьць, здаюцца пераадоленымі ці, прынамсі, адкладзенымі на восень. Апазыцыя, як вядома, сумнявалася ў актуальнасьці такога форуму і засьцерагала ад дэвальвацыі ідэі Ўсебеларускага Зьезду.***

**Ад каго цяпер сыходзіць найбольшая пагроза незалежнасьці, што выклікала неабходнасьць такога форуму, спыталіся мы ў журналіста Аляксандра Старыкевіча, каардынатара ініцыятыўнай групы Зьезду.**

— Найбольшая пагроза беларускай незалежнасьці сыходзіць ад нашай уласнай слабасьці і няздольнасьці будаваць сваю дзяржаву. Усе астатнія пагрозы былі, ёсьць і будуць, і нічога мы зь імі ня зробім. Таму трэба менш наракаць на Лукашэнку ці Расею, а думаць пра ўласную абыякавасьць да лёсу краіны.

**— Якім чынам Усебеларускі Зьезд за Незалежнасьць мае даць рады гэтай разьлітай у грамадзтве мляваcьці?**

— Ніводная адзінкавая акцыя сама сабою нічога тут ня зробіць, і Зьезд — не вынятак. Трэба працаваць доўга, зладжана, пасьлядоўна. Зьезд — проста адзін з этапаў гэтай працы. Вельмі важнае, крытычнае наступнае дзесяцігодзьдзе: калі беларуская незалежнасьць ператрывае яго, калі мы выстаім, далей пытаньне пагрозы незалежнасьці зьнікне з парадку дня, тады ўжо замест яго прыйдзе пытаньне, якая гэта будзе дзяржава. Але трэба пралічваць розныя сцэнары, у тым ліку і магчымае зьнікненьне прыкметаў фармальнага сувэрэнітэту. Да гэткага найгоршага сцэнару трэ быць гатовымі. І вось тут вельмі важным можа аказацца Акт Незалежнасьці, прыняты Ўсебеларускім Зьездам. Акт Незалежнасьці ўстае ў адзін шэраг з такімі дакумэнтамі, як Устаўныя Граматы БНР, Дэклярацыя 1990 году, Канстытуцыя 1994 году.

Сувэрэнітэт — той з праграмных элемэнтаў дэмакратычных сілаў, які падзяляюць найбольш людзей у беларускім грамадзтве. Вартасьць сувэрэнітэту больш зразумелая, чым значэньне правоў чалавека, дэмакратычных працэдураў і рынкавай эканомікі. Значыць, менавіта на гэтай плятформе могуць аб'ядноўвацца розныя палітычныя сілы, і, думаю, Усебеларускі Зьезд адыграе сваю ролю ў гэтым яднаньні.

Трэба шукаць паразуменьня ў справе захаваньня беларускай дзяржаўнасьці з расейскамоўным насельніцтвам, трэба множыць менавіта сярод гэтай групы насельніцтва прыхільнікаў незалежнасьці, менавіта на іх трэба скіроўваць агітацыйную працу.

**— Івонка Сурвілла скептычна ставіцца да ідэі Зьезду. Што Вы робіце, каб пераканаць беларускую дыяспару ў ягонай дарэчнасьці?**

— Гэта перабольшаньне — што скептычна. У сакавіку я сустракаўся зь ёй, і яна цалкам падтрымала гэтую ідэю. Але сапраўды пасьля нехта распаўсюджваў за акіянам чуткі, што за арганізатарамі Зьезду стаіць Лукашэнка, што й выклікала неўразуменьне сярод эмігрантаў. Але цяпер кантакт са сп.Сурвіллай, Навумчыкам, Кіпелем наладжаны. Мы больш ня маем праблемаў з Радай БНР, пасварыць нас зь імі не ўдалося.

**— Ходзяць чуткі, што за аргкамітэтам Зьезду стаіць Віктар Ганчар. Як Вы можаце адкамэнтаваць гэтыя чуткі?**

— Я быў бы рады, каб за арганізатарамі Зьезду стаяў Віктар Ганчар, бо гэта б азначала, што ён жывы.

Мы ўвесь час шукаем падводныя камяні, каб толькі нехта на нечым ня выйграў... Але выйгрыш ад Зьезду будзе найперш для беларускай дзяржаўнасьці, а не для нейкіх канкрэтных асобаў. Кажуць пра Ганчара, кажуць пра КГБ... Хай КГБ... Я быў бы рады, каб КГБ працаваў на беларускую незалежнасьць. Дзякуй Богу, што хоць сустаршыняў Зьезду не западозрыш у імкненьні балятавацца ў прэзыдэнты.

**— Якім, на Вашу думку, можа быць дзяржаватворчы кампраміс у нашым грамадзтве?**

— Пра гэта думаецца ўжо ня першы год. Але не на зьезьдзе гэты кампраміс будзе абмяркоўвацца. Аснова кампрамісу — згода на недатыкальнасьць сувэрэнітэту самастойнай, незалежнай Беларускай дзяржавы. У гэтым ніякіх саступак быць ня можа. Ніякіх адзіных дзяржаваў з двума сувэрэнітэтамі.

**— Ці гатовыя Вы даслаць запрашэньне на Зьезд за Незалежнасьць Аляксандру Лукашэнку і ў якім разе Вы былі б гатовыя гэта зрабіць?**

— Цікавае пытаньне... У любым разе, вырашаць гэта будуць сустаршыні, я толькі выканаўца ў гэтай справе... З улікам пазаўчорашняй прамовы Лукашэнкі, дзе ледзь не праз слова гучала «сувэрэнітэт і незалежнасьць», то... Чаго б не... Праўда, у яго, мабыць, своеасаблівае разуменьне незалежнасьці... Зь іншага боку, ясна, што на зьезд ён ня пойдзе, жаданьня сустрэцца з колам людзей, якія не кантралююцца ягонымі структурамі, у яго няма, так што, хутчэй, і ня варта ісьці яму насустрач. Зьезд — ініцыятыва зьнізу. Дзьверы ні для каго не зачыненыя. Калі б Лукашэнка хацеў вылучыцца дэлегатам на зьезд, ён мог бы гэта зрабіць, але дагэтуль рухаў такіх не было.

**— Вы сказалі, што ў яго «своеасаблівае разуменьне» паняцьця незалежнасьці. А якое Ваша разуменьне незалежнасьці?**

— Лепш за Ўладзімера Арлова на гэтае пытаньне я не адкажу. Усё напісана ў ягоным эсэ «Незалежнасьць — гэта...». Што да разуменьня незалежнасьці пэўнымі асобамі з ураду, дык я думаю, што там гаворка ідзе проста пра падмену паняцьцяў.

**— Што ўдаецца, а чаго не ўдаецца на этапе падрыхтоўкі Зьезду? Чым могуць дапамагчы чытачы «НН»?**

— Падрыхтоўка Зьезду вядзецца ўжо пяць месяцаў, і хто хацеў далучыцца, той далучыўся. Сыстэма вылучэньня на зьезд максымальна спрошчаная — гэта ня выбары, а вылучэньне, я гэта падкрэсьліваю. Зьбіраюцца актыўныя людзі. Хай недзе зьбяруцца сто, недзе дзьвесьце чалавек. Але дзе вы бачылі, каб недзе сабраліся — са сваёй волі, а не сагнаныя ўладамі — хоць сто чалавек у падтрымку саюзу з Расеяй? Такога не было, як не было ніякіх пратэстаў грамадзкасьці, калі разваьваўся СССР. Так што прадстаўнічасьць Зьезду не такая ўжо малая, як для чыста грамадзкай, не палітычнай ініцыятывы, што ідзе зьнізу. Вага рашэньняў зьезду залежыць не ад таго, колькі чалавек вылучаць дэлегатаў, дваццаць ці дзьве тысячы (а мы разумеем, што паўнавартасныя выбары з удзелам больш за 50% выбарцаў сёньня правесьці немагчыма), а ад таго, наколькі яны будуць падтрыманыя ў грамадзтве пасьля прыняцьця. Мы мо й самі хацелі большага ўдзелу розных людзей, але маем тое, што маем. Зрэшты, у кампаніі па вылучэньні дэлегатаў на Зьезд бярэ ўдзел больш людзей, чым у «грамадзка-палітычным дыялёгу».

**— Як, па-Вашаму, ці будзе патрэба ў скліканьні другой сэсіі Зьезду ўвосені?**

— У мяне такое непрыемнае ўражаньне, што сёлета падзеі будуць разгортвацца паводле сцэнару 96-га году. Да нейкага прынцыповага моманту дэмакратычныя сілы застаюцца непадрыхтаванымі. Тлумачэньняў наконт таго, што рабіць пасьля восеньскіх парлямэнцкіх выбараў, пасьля таго, як на іх пойдзе ці ня пойдзе апазыцыя, я ні ад каго не пачуў. Трывожыць, што ў нас, здаецца, ніхто не пралічвае сытуацыю на крок наперад.

Неабходнасьць правядзеньня другой сэсіі вырашыць Зьезд 29 ліпеня.

**Гутарыў Андрэй Дынько (Наша Ніва)**

# Ліст зь Менску:

"Праглядваю апазыцыйныя незалежныя газэты – "Наша Свабода", "Белорусская деловая газета", "Белорусская газета", "Салідарнасьць", "Рабочы", "Народная Воля"… І ў мяне паўстае пытаньне: да каго ж яны ў апазыцыі? Да рэжыму? Здаецца, не, бо з прадстаўнікамі рэжыму размаўляюць на адной мове, на мове акупанта.

Паглядзіце, пераважная большасьць тэкстаў у такіх газэтах – на расейскай мове, хоць у многіх з газэтаў беларускія назвы. Праўда, іншыя і назвы падабралі сабе якраз такія, каб дагадзіць абодвум гаспадарам, а найперш галоўнаму. Быццам не беларусы са сваёй культураю ў гэтай краіне – гаспадары.

Дык які ж гэта апазыцыйны друк? Ці могуць супрацоўнікі гэтых газэтаў супрацьстаяць рэжыму? А можа, ім, як той казаў, усё да лямпачкі, абы грошы плацілі? Такі друк не спрыяе адраджэньню нашага менталітэту, нашае культуры. Ён садзейнічае якраз тым, хто цягне нас назад, у кайданы расейскага рабства.

Цікава, што й зьмест гэтых газэтаў адпавядае мове. Адчуваецца расейскі, а не беларускі мэнталітэт. Газэты нецікавыя, у іх няма глыбокае думкі, вострых фактаў.

Я ўжо сёньня хачу бачыць Беларусь беларускай, а не напаўрасейскай дзяржаваю; хачу быць беларускай грамадзянкаю, а не немаведама кім, гібрыдам усіх нацыяў. А таму буду выпісваць ці купляць гэтыя газэты толькі тады, калі яны будуць напісаныя на маёй роднай, Богам дадзенай беларускай мове",

**напісала А. Масюта зь Менску.**

# Беларусь пазбаўлена мытных ільгот

Прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан прыняў рашэньне, згодна з якім Беларусь пазбаўленая права бяспошлінніга ўвозу сваіх тавараў на амэрыканскі рынак з-за таго, што "урад Беларусі працягвае абмяжоўваць правы прафсаюзаў і перасьледуе прафсаюзных лідараў". Пра гэта гаворыцца ў распаўсюджанай у Вашынгтоне заяве прадстаўніка ЗША па гандлёвых перамовах спадарыні Шарлэн Баршэўскі. Паводле ейных словаў, рашэньне Клінтана абапіраецца на звесткі пра тое, што беларускія ўлады прадпрымаюць недастаткова намаганьняў, каб сытуацыя ў Беларусі адпавядала "міжнародна прызнаным правам працоўных".

У адпаведнасьці з існуючай ў ЗША праграмай эканамічнага садзейнічаньня (сыстэма прэфэрэнцыяў), прыкладна 140 краінаў сьвету маюць права ўвозіць на амэрыканскі рынак пэўныя віды тавараў бяспошлінна. Аб'ём бяспошліннага экспарту з Беларусі ў ЗША склаў 26,7 мільёна даляраў.

У даведцы, прыкладзенай да заявы спадарыні Баршэўскі, паведамляецца, што ў 1997 годзе прадстаўнікі кіраўніцтва амэрканскіх прафсаюзаў накіравалі ва ўрад ЗША пратэст з патрабаваньнем пазбавіць Беларусь права на ільготы з-за парушэньняў правоў працоўных. Створаная ўрадам камісыя пацьвердзіла абвінавачваньні амэрыканскіх прафсаюзаў і заявіла, што нягледзячы на замацаванае Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь права на дзейнасьць прафсаюзных арганізацыяў, "на практыцы гэтыя правы не выконваюцца і незалежныя прафсаюзы забараняюцца"

**Падаецца да ведама наш e-mail address: bdigest@iserv.net**

# Беларускі Сізіф

Леанід ГАЛУБОВІЧ

**«Канстытуцыя дае нам права карыстацца роднай мовай як дзяржаўнай. Анахранізмам і недарэчнасцю гучыць у наш час патрабаванне роднай мовы. Аднак факт застаецца фактам. Я хачу, каб мае дзеці вучыліся на роднай мове. Я жыву ў сталіцы Беларусі. А ў сталіцы Беларусі няма ніводнай беларускай школы. Я жахнуўся, зрабіўшы для сябе такое «адкрыццё»: да рэвалюцыі ў Мінску не было ніводнай беларускай школы. Прайшло пяцьдзесят гадоў пасля рэвалюцыі – і ў сталіцы Беларусі няма ніводнай беларускай школы. Я хачу, каб мае дзеці засталіся беларусамі. Мне кажуць: а хто ім не дае? А я адкажу: усё не дае — яслі, дзіцячы садок, двор, школа, газета, радыё, кіно, любая наша ўстанова. Яшчэ горш, што патрабаванне роднай мовы стала крамольным актам і некаторымі расцэньваецца як нацыяналістычнае, як праяўленне нацыяналізму. А калі і дзе патрабаванне элементарных нацыянальных свабодаў лічылася нацыяналізмам?»**

Не падкажу, дык ні за што на здагадаецеся, калі і хто гэта сказаў. Не сёння і не ўчора нават, не Быкаў і не Гілевіч. Гэта дакладная вытрымка з прамовы на пленуме СП БССР у кастрычніку 1968 года пісьменніка Уладзіміра Дамашэвіча.

Што і казаць, як даўней, так і цяпер, людзей – процьма, а чалавек – адзін... Тым больш, калі той чалавек – беларус...

Уладзімір Дамашэвіч. 72 гады. Родам з Ляхавіцкага раёна. Беспартыйны, схільны да сацыял-дэмакратыі. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1962 года. Доўгі час працаваў загадчыкам аддзела прозы часопіса "Маладосць". Яго выхаванцамі лічаць сябе такія нашы таленавітыя літаратары, як Юры Станкевіч, Андрэй Федарэнка, Алесь Наварыч ды шмат хто яшчэ... Аўтар дзесятка празаічных кнігаў. Лаўрэат прэміі прафсаюзаў Беларусі за раман «Камень з гары» (1991 г.). Цяпер – на пенсіі. Жыве ў Клецку.

Такім, як ён, і жылося, і пісалася не без цяжкасцяў. Творчая скіраванасць літаратара да нацыянальнай і чалавечай годнасці каштавала яму і не выданых у свой тэрмін кніжак (скажам, аповесць «Кожны чацвёрты», напісаная ў 1978 годзе, пабачыла свет толькі ў 1991 годзе, а ўжо ўспомнены раман «Камень з гары» праляжаў у шуфлядах ажно дваццаць гадоў, як і цяпер нязрушна ляжаць яго рукапіс публіцыстыкі «Гутаркі з блудным сынам» ды іншыя «гарачыя» творы) і страты матэрыяльных выгадаў, і дыскрымінацыі па палітычных матывах...

Але такія людзі нязломныя. І здароўе ім Бог дае, бо, мабыць, лічыць іх праведнікамі. Не бязгрэшнымі, вядома. Таму Уладзімір Максімавіч не забывае паспавядацца. Шчыра і сумленна. І перад Богам, і перад чытачамі. Думаю, многім нашым актыўным грамадзянам было б цікава пачытаць яго «Мітынговую аповесць» (часопіс «Крыніца», № 51) і, магчыма, пазнаць сярод яе герояў сябе – без прыўкрас, такімі як былі...

Ляжыць перада мной і рукапіс адмоўленага газетай «Звязда» ў 1995 годзе апавядання "Рэальнае двухмоўе, альбо Падарожжа нацыяналіста з Мінска ў Клецак". Па сутнасці, гэта дыялог двух грамадзянаў Беларусі ў вагоне электрычкі: рускага інтэрнацыяналіста і беларуса-незалежніка.

«– Вот вы получили независимость – из наших рук, запомните! – и как же вы ее использовали?

– Хай толькі прыйдзе да ўлады цвёрды прэзідэнт, не такі, як Кебіч, што стаіць на задніх лапках перад Чарнамырдзіным. Лепш сказаць, не на лапках, а на каленях... Анекдот чулі, як Кебіч прывёз ад Чарнамырдзіна футра сваёй жонцы? Футра тое аказалася надта кароткае, а Кебіч кажа: калі там прымяраў, то якраз было... А жонка яму кажа: не забывай, што ты там на каленях стаяў...»

Даўнаватыя рэаліі, але дастаткова замяніць прозвішчы «герояў» – і перад намі паўстане карціна сённяшняга дня...

Дамашэвіч, на маю думку, – гэта сучасны беларускі Сізіф. Коціць-ускочвае ён камень нашага нацыянальнага лёсу на вяршыню зямной цывілізацыі... Ды зноў і зноў скочваецца той «камень з гары»... Але Сізіф наш – нястомны... Чытаю яго новыя творы ды перачытваю даўнія выступленні (прамовы пра мову!) і зайздросна дзіўлюся яго мужнасці, адвазе і вытрымцы...

Для яго дбаць пра Айчыну – азначае быць беларусам. Усяго толькі. І гэта так проста – як жыць чалавекам...

Жыць і тварыць так, як Дамашэвіч, каб хоць спадзеў мець памерці вольным у свабоднай краіне. Хіба за гэта трэба казаць «дзякуй»? За гэта трэба жыць.

І – не-не, ды ўспамінаць яго словы: «Калі пісаць крывёю сэрца, калі пісаць таленавіта і цікава, дык ёсць надзея, што напісанае застанецца... Але не менш важна: любіць сваю Бацькаўшчыну і быць гатовым аддаць за яе нават жыццё. Каб яна жыла вечна, наша Маці Беларусь!»

# Наконадні -- Усебеларускі зьезд

**Юрась Карманаў**

Апошнім буйным мерапрыемствам летняга палітычнага сэзону для апазыцыі павінен стаць Усебеларускі зьезд за незалежнасьць, першая сэсія якога адбудзецца ў Менску 29 ліпеня. Арганізатары Зьезду лічаць, што выніковы Акт ў падтрымку беларускае незалежнасьці павінен актуалізаваць паняцьце сувэранітэту ў грамадзянаў краіны, а таксама паказаць заходнім краінам, што ў Беларусі ёсьць сілы, здольныя адстойваць міжнародную суб'ектнасьць Беларусі . Арганізатараў зьезду шчыра зьдзівіла рашэньне Менгарвыканкаму, у якім дазваляецца правесьці мерапрыемства 29 ліпеня ў менскім палацы "Сукно". Да апошняга часу арганізатары зьезду адчувалі адно перашкоды з боку афіцыйных уладаў.

Прадстаўнічасьць, гістарычная пераемнасьць і масавасьць – менавіта гэтыя чыньнікі , як мяркуюць арганізатары, робяць Усебеларускі зьезд за незалежнасьць падзеяю для Беларусі знакаваю. 3-ці раз у дваццатым стагодзьдзі беларусы яскрава праартыкулююць сваё жаданьне жыць у суверэннае й незалежнае дзяржаве. У сваёй дзяржаве. Мейсцам правядзеньня падзеі, натуральна, абраная беларуская сталіца, куды на першую сэсію 29 ліпеня ( праз дзень пасьля сьвяткаваньня 27 ліпеня Дня Незалежнасьці) зьедуцца дэлегаты зьезду.

Як паведаміў Радыё Рацыя адзін із сустаршыняў Усебеларускага зьезду за незалежнасьць прафэсар Анатоль Грыцкевіч, у зьезьдзе возьмуць удзел калі 900 дэлегатаў. Пакуль вылучаныя (пераважна ад грамадзскіх арганізацыяў) 500 дэлегатаў. Вылучэньне працягваецца. Мэту буйное акцыі Анатоль Грыцкевіч (у інтэрвію РР) акрэсьліў так: менавіта зараз, паводле словаў арганізатараў Усебеларускага зьезду, вырашаецца пытаньне будучыні Беларусі як дзяржавы. Ад прысутнасьці ў беларусаў ВОЛІ да незалежнасьці будзе залежаць лёс гэтага сярэднеэўрапэйскага народу. У 1917 і 1944 гадох, калі праходзілі аналягічныя зьезды, спробы стварыць сваю дзяржаву посьпеху ня мелі. Расея пазбавіла тады, спрабуе пазбавіць і зараз беларусаў свайго гістарычнага шанцу.

Анатоль Грыцкевіч цьвердзіць, што Акт аб незалежнасьці – ключавы дакумэнт зьезду -- павінен актуалізаваць паняцьце сувэрэнітэту ў грамадзянаў Беларусі, а гэтаксама паказаць заходнім краінам, што ў Беларусі ёсьць сілы, здольныя адстойваць міжнародную субьектнасьць Беларусі. Убачыць гэта павінныя й расейцы, дыпляматычныя прадстаўнікі якіх запрошаныя на зьезд.

Паводле словаў Анатоля Грыцкевіча, на Ўсебеларускім зьезьдзе за незалежнасьць будуць прысутнічаць прадстаўнікі беларускае дыяспары, якія несьлі праз стагодзьдзе ідэю дзяржаўнасьці Беларусі, а гэтаксама заходнія дыпляматы. Вельмі важна, каб беларусы гэтым разам зноў не перасварыліся. Палітычныя амбіцыі да апошняга часу перашкаджалі у працы па падрыхтоўцы зьезду. Выніковая рэзалюцыя Кангрэсу дэмакратычных сілаў у падтрымку Ўсебеларускага зьезду часткова зьняла напружанасьць. Палітычныя апазыцыйныя партыі улучыліся ў падрыхтоўчую працу.

Адпаведна Грыцкевічу, недарэчна чакаць падтрымкі ў правядзеньні зьезду за незалежнасьць ад беларускіх уладаў, якія праводзяць супрацьлеглую палітыку. Галоўнае, каб не перашкаджалі, -- цьвердзіць сп. Грыцкевіч. Арганізатары зьезду былі зьдзіўленыя апэратыўнасьцю, з якою Менгарвыканкам задаволіў заяўку на правядзеньне зьезду.

# На новым «Мэрцэдэсе» — у старую палітыку

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

**60-гадовага ўзросту дасягае сёлета першы беларускі касманаўт Пётр Клімук. У Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў, які ён узначальвае, ужо пагавораюць аб наступніках на высокай пасадзе, і таму, магчыма, генерал-палкоўнік зноў падаўся ў палітыку.**

Гэтымі днямі Пётр Клімук наведаў вёску Камароўка, дзе жыве яго родная сястра, і сярэднюю школу ў вёсцы Тамашоўка, якая лічыць Клімука сваім выхаванцам. Зараз тут сустракалі Клімука асабліва ўрачыста, бо ён прэзентаваў школе новы аўтобус — «пазік». Каштуе ён у Расіі каля 10 тысяч долараў. Усю суму генерал аплаціў з прэміі, што разам з іншымі спецыялістамі Зорнага гарадка атрымаў з еўрапейскага фонду імя французскага лётчыка Франсуа Хаўера Бано.

У радзінны кутток касманаўт завітаў праездам з Нямеччыны, дзе знаходзіўся ў службовай камандзіроўцы. Яе ўдалым вынікам можна лічыць набыты «Мерседэс-320» не пазней 1998 года выпуску. Клімук расказаў вяскоўцам, што вяртаецца ў палітыку (раней П.Клімук быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР) у якасці старшыні грамадскай палаты саюзнага аб'яднання Беларусі і Расіі. І хоць ніхто з прысутных не ўзгадваў пра пісьмовы пратэст дэмакратычнай грамадскасці Брэстчыны на ўдзел іх вядомага земляка **у прадажным працэсе далучэння Беларусі да Расіі,** але Клімук сам загаварыў пра «нацыяналістаў, якія не разумеюць усю выгаднасць аб'яднання». Пасланне чытаў, але стаіць на супрацьлеглых пераканнях. Шкада. Маскоўскі госць мог пабачыць апусцелыя сядзібы ў вёсцы, а ад радні пачуць, што ў тамтэйшым калгасе імя Дзяржынскага затрымліваюць заробленае яшчэ ў красавіку. На курс мінскай вярхушкі па расійскім вектары беларуская глыбінка рэагуе масавасцю ў адваротны бок. Зараз у Камароўцы, Тамашоўцы і ва ўсіх суседніх, хто яшчэ стаіць на нагах, па два разы на дзень наведваецца ў Польшчу праз блізкі пагранпераход «Дамачава». Гарэлка і цыгарэты выратоўваюць землякоў касманаўта ва неўраджайны год пры рэжыме, памагатым якому падрадзіўся быць двойчы герой заваёвы космасу.

Саўка, як ваўка, заўсёды ў лес цягне. Калі сп. Клімуку так моцна падабаецца Расея, дык чаму ён ня езьдзіць на савецкай "Волзе"?

# Ёсьць "Крыжачок", якім можна ганарыцца

Беларускі ансамбль народнага танца "Крыжачок" узяў удзел у штогадовым Міжнародным танцавальным фэстывалі, які 10-13 ліпеня прайшоў у горадзе Карміэль (Ізраіль). Як паведаміла прэс-служба МЗС Беларусі, у межах фэстывалю адбыліся таксама канцэрты беларускіх танцораў на адной з пляцовак горада. У сваіх водгуках аб выступленні беларускага ансамбля ізраільцяне і госьці фэстывалю адзначылі высокі ўзровень харэаграфіі, багацьце і вытанчанасьць касьцюмаў. Высокіх ацэнак таксама заслужыла музычная трупа ансамбля, якая дасканала валодае беларускімі народнымі інструментамі. Падчас фэстывалю былі праведзеныя перамовы з кіраўнікамі берлінскага танцавальнага фэстывалю, на якіх дасягнутая дамоўленасьць аб запрашэньні ансамбля "Крыжачок" на наступны фэстываль, які пройдзе ў ФРГ.



# Лукашэнка яшчэ можа стаць меншым злом

**Ідэальная дыктатура**

...Беларускі «эканамічны цуд», якога спадзяюцца ягоныя творцы, мае ў сваёй задуме грунтавацца на амаль фэўдальнай эксплюатацыі працоўных. Беларус, паводле задумкі распрацоўшчыкаў, павінен працаваць з той самай прадукцыйнасьцю, што й паляк, літовец, расеец, за заробак, у шэсьць разоў меншы, чым у палякаў, у чатыры — чым у літоўцаў, у два — чымся ў расейцаў. Канвэер «Гарызонту» рухаецца з той самай хуткасьцю, што й канвэер «Шылялісу» ў Шаўлях ці «Рубіну» ў Маскве. Імпартаваныя кінэскопы таксама каштуюць заводам аднолькава, як прыкладна за аднолькавыя грошы прадаецца тэлевізар. Куды ж, паводле распрацоўшчыкаў схемы, мусіць дзявацца розьніца, заашчаджаная беларускім працадаўцам-дзяржаваю на заробках? Рознымі ўскоснымі шляхамі адна частка мае пападаць у кішэню кіраўніцтва Беларусі («бо дзяржава — гэта я»), другая — у кішэню маскоўскіх транснацыянальных карпарацыяў, якія гэтае кіраўніцтва трымаюць на сваіх штыхах-спэцслужбах і забясьпечваюць яму «інфармацыйную падтрымку». Трэцяя ж, найбольшая, ідзе на падтрыманьне інфраструктуры і вытворчыя інвэстыцыі — бяз гэтага сыстэма ўпала б, а з гэтым зьнікае патрэба ў замежных і прыватных інвэстыцыях, і, значыць, краіна можа існаваць і безь легітымных уладаў, і без крэдытаў МВФ, і без супрацоўніцтва з «цывілізаваным сьветам».

Вось гаспадарчая схема «ідэальнай дыктатуры». Па такой схеме ў 70—80-х эксплюатаваў карэйскіх рабочых Чон Ду Гван, а маляйзійскіх — Магатгір Магамет.

Існуюць дзьве пагрозы такой сыстэме.

Па-першае, сыстэма добра працуе там, дзе магчымы лёгкі кантроль за якасьцю працы, напрыклад, на канвэеры «Гарызонту». Але сыстэма не спрацоўвае там, дзе кантроль немагчымы. Касара, доктара, настаўніка, навукоўца добра працаваць за 20 даляраў у месяц не прывучыш. Усё адно скосіць высака, не дагледзіць, раней часу дзеці параспускае, нічога ня вынайдзе.

Па-другое, можа ўзьнікнуць бунт. Мітынгі, страйкі, сабатаж.

Як сыстэма дае рады гэтым дзьвюм пагрозам? На змаганьне зь першай мабілізуюцца ўсе дадатковыя рэзэрвы. У вёску ўлетку адпраўляюць на працу гарадзкое насельніцтва, уводзіцца прыгонная сыстэма абавязковага размеркаваньня маладых спэцыялістаў, разгортваецца прапагандысцкі апарат, ствараецца агульная атмасфэра страху і караў, стратэгічнымі рэчамі проста ахвяруецца і г. д. Другое папераджаецца драконаўскімі дэкрэтамі, кодэксам, ізноў жа высілкамі прапагандысцкага апарату і стварэньнем агульнай атмасфэры страху — звальненьнем мэтрапалітэнаўцаў, крывавымі разгонамі незалежніцкіх шэсьцяў і г.д. Ясна, што і для першага, і для другога трэба, каб было як мага меней дэмакратыі і як мага болей гістэрыі.

Дэмакратыі і свабодам няма месца ў такой эканоміцы!

А самае сьмешнае ва ўсім гэтым тое, што заходняя і ўсходняя крайнія лявіцы працягваюць шанаваць Лукашэнку як ідала!

Аўтары схемы разьлічвалі, што транснацыянальныя карпарацыі хуценька скемяць выгоду працы на расейскім рынку пры ўдвая-утрая ніжэйшых, чым у Расеі, заробках і рахманай, як у канцлягеры, працоўнай сіле, і прымусяць сьвет прызнаць права Беларусі на існаваньне паводле сваіх арыгінальных законаў. Але яны пралічыліся, мо таму, што законы сьвету здаваліся ім прасьцейшымі і падлейшымі, чым яны ёсьць — такая памылка ўласьцівая дылетантам-правінцыялам.

Расейскія капіталісты і ваеншчына сапраўды хутка знайшлі супольную мову з Лукашэнкам, але ў цэлым сьвет і глябальная эканоміка былі ўжо ня тымі, час ня той і месца ня тое, што ў Карэі 70—80-х.

Ніякія карпарацыі ў Беларусь не прыйшлі, і паколькі часу на тое мелі цэлыя шэсьць гадоў, дык мусіць ужо й ня прыйдуць.

Расейцы знайшлі супольную мову, але не зракліся мараў пра поўны кантроль над экспартнапаплатнымі беларускімі вытворчасьцямі — найперш нафтаперапрацоўкай, мэталюргіяй, хіміяй, а таксама транзытнымі камунікацыямі, і гэтая іхная ласасьць стварае заўсёдную небясьпеку таго, што яны, з уласьцівай сёньняшнім расейцам гарачнасьцю ў выбары сродкаў, захочуць паставіць замест Лукашэнкі прэзыдэнтам чалавека нашмат больш падатлівага і расейскага — нейкага, скажам, юрыста, генэрала ці вядучага Радыё Бі-Эй. Бо Лукашэнка, у сілу сваёй няўрымсьлівай працы па ізаляцыі беларускай культуры, ізаляваў яе ўжо да такой ступені, што сам аказаўся занадта беларускім для створанай ім сыстэмы. Сыстэма дзяржаўнай улады, завязаная на ўсім расейскім, сёньня патрабуе ўжо сабе ў кіраўнікі меней беларускага чалавека, чым Лукашэнка. У гэтым драма Лукашэнкі і пагроза ягонай уладзе.

А ізаляцыя беларускай культуры адбылася, бо тая несла, лічылі праектанты, палітычную пагрозу задуманай сыстэме звышэксплюатацыі і самаўладзьдзя, якое такую эксплюатацыю гарантуе — бо беларуская культура нясе пэўную гістарычную традыцыю свабоды і права, як і пэўныя геапалітычныя сымпатыі.

**Беларускі варыянт Кучмы**

Але ў гэтым самым і драма беларускай апазыцыі. Рэальнасьць сёньня такая, што зьмяніць Лукашэнку можа толькі нашмат большы марыянэтка Масквы, яшчэ больш цынічны й варожы нашым ідэалам. А значыць, што ёсьць пагроза ў другі раз трапіцца ў пастку 1994 году, калі, скіраваўшы ўсе сілы на барацьбу з Кебічам, беларуская правіца прывяла да ўлады нашмат менш кіраваную і непрадказальную сілу.

Цяпер зноў уся незайздросная моц беларускай культуры скіраваная на дыскрэдытацыю гэтага ўвасабленьня зла і беспрынцыпнасьці, гэтага сымбалю нашага нацыянальнага рабства — на калгаснага банапарта. Пры гэтым ігнаруецца той факт, што вал расейскае культуры і мэдыяў, што нясуць расейскі нацыяналізм і погляд на сьвет, цяпер настолькі магутны, што па-сапраўднаму страшны ўжо не Лукашэнка. Жахнуцца нас прымусіць можа той чалавек, якога Лукашэнку падрыхтуюць на зьмену. Альбо Лукашэнка, перавыхаваны расейцамі на яшчэ больш свойскі лад — калі гэта магчыма. Мы яшчэ згадаем тады цяперашняга Лукашэнку. Тады, пад засеньню арла і трыкалёра, мы яшчэ паўспамінаем з настальгіяй чырвона-зялёны сьцяг, газэту «Звязда» і радыёстанцыю «Сталіца».

Такі найгоршы варыянт разьвіцьця расейскай экспансіі ў Беларусь ужо стаў цалкам магчымы. Бо некаму бліскуча ўдаецца нацкоўваць тых, чыя кааліцыя даўно магла б памяняць шлях разьвіцьця Беларусі — Лукашэнку і правую апазыцыю.

Таму што зьмяніць Лукашэнку можа й... сам Лукашэнка, але ў якасьці беларускага варыянту Кучмы. Толькі дзеля гэтага ён мусіць выканаць некаторыя ўмовы.

**Альтэрнатыва расейскаму пратэктарату**

Беларусь, у адрозьненьне ад Малдовы, ня ёсьць дзяржавай-банкрутам per definizionem, ня ёсьць, ужо дзякуючы таму, што не перасіленая вялікімі ўнутранымі разладамі, затое мае мінімальна выгадную геаграфічную сытуацыю і прамысловы патэнцыял. Між тым нават у такой безнадзейнай сытуацыі, як малдоўская, дзяржава ж нейкім чынам функцыянуе.

Няпраўда, што *альтэрнатывы яднаньню з Расеяй няма.* Саслабіўшы расейскі пратэктарат, Беларусь нешта страціць — энэргарэсурсы за паўцаны найперш. Але нешта й набудзе — магчымасьць будаваць безумоўна выгадны для нас капіталістычную эканоміку і ўласную інфармацыйную прастору.

Аддзяленьне ад Расеі для Лукашэнкі — рызыка, але ня меншай рызыкай для яго — і далейшае ўсё больш каляніяльнае існаваньне. У любы момант можа ўключыцца, каб зьмесьці яго, прапагандысцкая машына расейскіх СМІ, што ня мае тармазоў. А раптам зьнікненьне Завадзкага і ёсьць такім уключэньнем? Бо як бы лукашэнкаўская адміністрацыя не фраерылася, а проціставіць гэтай машыне ў яе няма чаго.

Пэўная зьмена курсу насьпела. Яе зразумее народ, яе чакае эліта. Яе вымагаюць нацыянальныя інтарэсы Беларусі. Лукашэнка можа прыняць умовы апазыцыі, пайсьці на дэмакратычныя выбары, выйграць іх горш ці лепш. Тады прыбраць грэблю і даць вадзе беларускае гісторыі пацячы туды, куды яе напраўляе рэльеф. Гэта зможа адбыцца без Лукашэнкі, але гэта можа адбыцца і зь ім ужо сёньня.

Лукашэнка сёньня мог бы стаць меншым злом для ўсяе інтэлігенцыі і маладое заможнае клясы, ды іхных палітычных сілаў, каб не ягоныя касьмічныя амбіцыі і маніякальная нягнуткасьць і недальнабачнасьць. Лішне казаць, што да канца Лукашэнка нас ніколі б не задаволіў, але каму да гэтага справа?

Наіўна было б заклікаць Лукашэнку ахвяраваць сваім палітычным рэйтынгам дзеля найвышэйшых нацыянальных інтарэсаў Беларусі іісьці на нейкія адкрыта непапулярныя ці антырасейскія крокі. Аднак першы прэзыдэнт Беларусі можа, карыстаючыся сваім палітычным талентам, зрабіць стаўку на іншыя эканамічныя, замежнапалітычныя і культурныя прыярытэты. Для гэтага трэба толькі пераадолець супраціў кіраўнікоў прадпрыемстваў, завязаных на расейскім рынку і кантраляваных з удзелам Масквы, і нэўтралізаваць пэўныя сілавыя структуры — з дапамогай іншых, больш беларускіх. Ніхто больш такому павароту пярэчыць ня будзе — нават аграрыі. Ясна, што пасьля гэтага Лукашэнка перастане набіраць 80% на выбарах. Але хай мне хто дакажа, што 55% галасоў — горш.

Лукашэнка, падаецца, яшчэ можа стаць беларускім варыянтам Кучмы. Калі ж не — яго чакае бездапаможнае дажываньне ў вечным страху перад старэйшым братам і ўнутранай апазыцыяй. Бо й дурню ясна, што гэты юрыст, генэрал ці вядучы Радыё Бі-Эй, прыйшоўшы да ўлады, найперш зрабілі б з Лукашэнкам тое, чаго вымагае расейская палітычная традыцыя і плебс, цярпеньне якога вычарпанае звышэксплюатацыяй.

**Андрэй Дынько "Наша Ніва"**

# Якая мова была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім?

Дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім была беларуская мова, бо беларускі этнічны элемент панаваў у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Княства, а нашыя землі складалі аснову яго магутнасці.

Галоўнае сведчанне дзяржаўнасці беларускае мовы - абслугоўванне ёю патрэбаў дзяржаўнага кіравання. Наша мова мела для гэтага ўсе неабходныя якасці, найперш пісьмова-літаратурную форму, досыць апрацаваную. Найбольшай дасканаласці яна дасягнула перадусім у сферы справавой пісьменнасці, сама пашыранай, якая якраз і ўжывалася ў дзяржаўным жыцці. На беларускай мове ўбачылі свет усе зборы законаў нашай старажытнай дзяржавы: Вісліцкі статут 1423-1438 гадоў, Судзебнік Казіміра Ягайлавіча 1468 года, Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў, Трыбунал 1586 года, а таксама вялікая колькасць дакументаў Метрыкі Вялікага Княства - архіва, які налічвае не адну сотню тамоў.

Пра значэнне нашае мовы (яе тады называлі «рускаю») ў жыцці тагачаснага грамадства яскрава сведчаць радкі верша Яна Казіміра Пашкевіча, напісаныя ў 1621 годзе:

Польска квітне лацінаю,
Літва квітне рушчызнаю.
Без той у Польсцэ не прабудзеш,
Без сей у Літве блазнам будзеш.

Мова нашых продкаў выконвала дзяржаўную функцыю на ўсёй тэрыторыі гаспадарства, была сродкам зносін паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў, што жылі тут. Ужыванне беларускай мовы ў сферы афіцыйнага справаводства было замацаванае заканадаўча: у Статуце Вялікага Княства пра гэта быў спецыяльны артыкул (раздзел 4, артыкул 1).

Праўда, пачынаючы з XVII стагоддзя (з прычыны ўзмацнення польскай экспансіі і

перайманьня чужой мовы шляхтай у сітуацыі двухмоўя) наша мова пакрысе пачала выцясняцца з афіцыйнага ўжытку. Урэшце пастановай Сойму 1696 года статус дзяржаўнай мовы на тэрыторыі Княства быў замацаваны за польскай мовай.

## Кароткі Ўспамін пра Сябра
## Сьв. Пам. Гэнрыка Сянькевіча

16.5.1923 — 22.6. 2000

Нарадзіўся Гэнрык Сянькевіч у Ляхавічах, Беларусь, у каталіцкай сям'і. Гадаваўся пры бацькох і дзядзьку Чарнэцкім у беларускім нацыянальным духу. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі вучыўся ў Баранавіцкай тэхнічнай школе, а ў 1944 годзе быў пакліканы ў рады БКА, адкуль накіравалі яго ў афіцэрскую школу ў Менск.

Там мы спаткаліся, бо і я па заканчэньні матуральных курсаў пры Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі быў змабілізаваны ў БКА і накіраваны ў Менск у афіцэрскую школу. У Менску мы доўга ня былі, бо з прыбліжэньнем бальшавіцкага фронту нашая школа адыйшла ў Вільню, дзе перажыла паўтарагадзіннае бамбаваньне. Некалькі нашых сяброў загінула, былі параненыя.

Далей нас накіравалі ў Прусію. Тут ад нашае школы забралі беларускую каманду, а нас пачалі ўзмоцнена муштраваць, каб у хуткім часе перакінуць у Францыю.

Ваяваць супраць аліянтаў мы ня мелі намеру і адразу пачалі плянаваць пераход да францускіх партызанаў. Памятаю што пры першай нагодзе нас траіх, — Гэнрык Сянькевіч, Міхась Наўмовіч і я адыйшлі ў бок лесу і адтуль пачалі рухацца ў супрацьлеглым напрамку. Гэнрык быў вельмі рэлігійным чалавекам. Калі вечарам мы падыйшлі да вёскі, Гэнрык запрапанаваў ісьці да ксяндза і прасіць у яго дапамогі, каб не апынуцца ў руках немцаў. Мы так і зрабілі. Здаліся ў рукі францускіх партызанаў, якія абыходзіліся з намі вельмі добра. Ноччу партызаны перавялі нас чатырох, бо ў гэтай вёсцы да нас далучыўся сьв. пам. Павел Асіповіч, да сялянаў у горы Альпы. Хутка сюды прыйшлі аліянты і нас перавезьлі ў транзітны лягер у Бэзансон. У лягеры мы мелі выбар: варочацца ў Савецкі Саюз, альбо францускі легіён, ці польскую армію. Мы выбралі апошнюю. З Францыі нас перавезьлі ў Італію, дзе я з Гэнрыкам служыў у другім корпусе Андэрса ў 25-м палку. У польскай арміі Гэнрык стала вышукваў беларусаў сярод так званых “Крэсавякаў” і стараўся іх усьведамляць. Між сабою мы заўсёды размаўлялі пабеларуску. У канцы 1946 г. наш полк пераехаў у Англію. Тут Гэнрык спаткаў свайго сьв. пам. брата Зыгмунта. Пасьля дэмабілізацыі, Гэнрык з братам пераехалі ў Coventry, дзе Гэнрык нейкі час працаваў на фабрыцы памочнікам электрыка.

Гэнрык увесь час быў актыўным у беларускім эміграцыйным жыцьці. Ён быў адным з першых заснавальнікаў ЗБВБ. Пэўны час выконваў абавязкі сакратара аддзелу ЗБВБ у Ковэнтры.

У 1953 г. ажаніўся з ангелькай Jean, а ў 1955 годзе з жонкай пераехаў з Англіі ў ЗША, у Чыкага да свайго дзядзькі Чарнэцкага. У Амэрыцы працаваў сьлесарам у фабрыцы...

Гэнрык быў шчырым беларускім патрыётам і моцна перажываў за лёс Беларусі ды яе народу.

Нябожчык Гэнрык адыйшоў з гэтага сьвету пасьля кароткае хваробы. Пакінуў у смутку жонку Джэн, сыноў Марка і Паўла, дачку Аню і ўнукаў ды ўнучку. У Польшчы засталіся брат Адам і сястра Аня.

У 1945 годзе бацька Гэнрыка быў арыштаваны бальшавікамі і высланы ў Сібір, дзе і загінуў. Маці з астатняй сям'ёй пераехала ў Польшчу да свае сястры. У Англіі па Гэнрыку сумуюць сям'я брата і шматлікія сябры.

Паховіны Гэнрыка адбыліся паводле каталіцкага абраду і цела было аддана зямлі пры магілах ягоных сваякоў на Resurrection Cemetery ў Чыкага, ЗША.

Хай будзе Яму пухам амэрыканская зямля, і Ўсемагутны Бог няхай дорыць Яму Царства Нябесне. ***Сыльвэстар Будкевіч*, Англія.**

**Заміж кветак на магілу Гэнрыка Сянькевіча на газэту зламжылі: Сыльвэстар Будкевіч — $ 30.оо, Юрка Чарнэцкі — $50.оо.**

## Магутны Божа" зьбядняецца

12 ліпеня ў Магілеве адкрыўся 8-ы міжнародны фэстываль духоўнае музыкі "Магутны Божа", арганізаваны гарвыканкамам і магілеўскім касьцёлам Сьвятога Станіслава. У фэстывалі возьмуць удзел 12 музычна-харавых калектываў зь Беларусі, Украіны й Польшчы, пяць вакалістаў зь Беларусі, Украіны й Расеі, а гэтаксама тры дзіцячыя калектывы зь Беларусі і Ўкраіны. Цяперашні "Магутны Божа" ўпершыню пройдзе бяз конкурсу вакалістаў, што зьвязана ў першую чаргу зь фінансавымі праблемамі. З гэтае ж прычыны колькасьць удзельнікаў фэстывалю сёлета рэкордна нізкая -- 428 чалавекаў.

## Кансэрватары - за Незалежнасьць

Кансэрватыўна-хрысьціянская партыя БНФ ня будзе браць удзелу ў восеньскіх парлямэнцкіх выбарах.

Гэтая пастанова, пра якую кіраўніцтва партыі абвясьціла на пачатку чэрвеня, было ўхваленае падчас чарговага Сойму партыі. Як паведамляе прэс-служба Кансэрватыўна-хрысьціянскае партыі БНФ, разгледжаныя таксама пытаньні аб стварэньні Грамадзянскага парлямэнту й зборы подпісаў у абарону незалежнасьці Беларусі. Сойм аднагалосна выказаўся ў падтрымку Ўсебеларускага зьезду, які пройдзе ў Менску 29 ліпеня. Чальцы партыі Зянона Пазьняка правядуць 22, 23, й 29 ліпеня пікеты ў падтрымку Ўсебеларускага зьезду, незалежнасьці Беларусі ды ў гонар 10-е гадавіны Дэклярацыі аб сувэрэнітэце краіны

## Дэмакраты Беларусі і Расіі аб'ядноўваюцца

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ** (Н. Свыбода)

**19-га чэрвеня ў рамках дамовы аб супрацоўніцтве, заключанай на пачатку месяца паміж Аб'яднанай грамадзянскай партыяй Беларусі і Саюзам правых сілаў Расіі, у Маскве прайшоў першы «круглы стол» гэтых партыяў. Да ўдзелу ў паседжанні былі запрошаныя вядомыя расійскія палітыкі Барыс Нямцоў, Ірына Хакамада, Сяргей Іваненка (намеснік старшыні фракцыі «Яблык» у Дзяржднуме). У склад дэлегацыі АГП уваходзілі Анатоль Лябедзька, Аляксандр Дабравольскі, Павел Казлоўскі і іншыя. Адным з вынікаў «круглага стала» стала ініцыятыва пісьмовага звароту да А.Лукашэнкі з патрабаваннем дапусціць дэмакратычную апазыцыю да дзяржаўных СМІ, забяспечыць лібэралізацыю выбарчага зака заканадаўства і празрыстасць падліку галасоў. Пад зваротам свае подпісы ўжо паставілі такія вядомыя расійскія палітыкі, як Рыгор Яўлінскі, Яўген Прымакоў, Барыс Нямцоў, іншыя кіраўнікі і дэпутаты фракцыі СПС у Дзяржднуме. Напрыканцы верасня ў Мінску адбудзецца другі раунд «круглага стала». Сваю прысутнасць на ім паабяцалі Барыс Нямцоў і Ірына Хакамада.**

**Па вяртанні ў Мінск спадар А. Лябедзька, у прыватнасці, падкрэсліў, што АГП прэтэндуе на ролю пасярэдніка паміж дэмакратычнымі сіламі Беларусі і Расіі, бо, па-першае, гэтая ніша зараз ці не занятая зусім, ці яе спрабуе кантраляваць Лукашэнка. АГП, па словах Лябедзькі, сярод усіх беларускіх апазіцыйных партыяў мае на ўсходзе найбольш цесныя сувязі, і гэта дапаможа ў хуткім часе стварыць у кіруючых уладных органах Расіі прабеларускае дэмакратычнае лобі, што наблізіць вырашэнне многіх пытанняў.**

**Нагадаем, у траўні дэлегацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі ў складзе спадароў Паўла Данэйкі і Станіслава Багданкевіча ўжо прымала ўдзел у з'ездзе Саюза правых сілаў Расіі, і менавіта тады былі заключаныя першыя дамовы аб супрацоўніцтве з расійскімі дэмакратамі.**

## ЗША верыць у вольнасьць беларусаў

Канчатковае рашэньне, ці будуць на парлямэнцкіх выбарах у Беларусі назіральнікі ад ЗША, яшчэ не прынятае.

Пра гэта паведаміў пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спэкхард у часе свайго рабочага візыту ў Гомель. Адмену Злучанымі Штатамі гандлёвых ільготаў для Беларусі Спэкхард патлумачыў сытуацыяй у краіне, якая, паводле ягоных словаў, “перастала адпавядаць патрабаваньням дэмакратычнага грамадзтва”. Дыпляматычныя паўнамоцтвы Дэніэла Спэкхарда закончваюцца гэтым летам. Ён заяўляе, што пакідае краіну працы "з пачуцьцём аптымізму, выкліканага патэнцыйнымі магчымасьцямі беларусаў".

## ГАРЭЛКА З АЛЕЕМ СУПРАЦЬ РАКА?!

Мэтад М. Шаўчэнкі

Наліць у слоік 30-40 мл (1 мілілітр = 1 смз) алею нерафінаванага (рафінаваны трошкі горш усмоктваецца, але таксама падыходзіць) і 30 мл. 40-працэнтнага сьпірту (гарэлкі); шчыльна закрыць накрыўкай і актыўна трэсьці рукой некалькі хвілінаў (гэта намнога лепш зьмешвае алей і сьпірт, чым перамешваньне лыжачкай), хутка пераліць усю сумесь у кілішак, зрабіць выдых і як мага хутчэй усё выпіць, пакуль лякарства не раздзялілася ізноў на алей і сьпірт.

Прымаць лякарства такім чынам тры разы на дзень (за дзьве гадзіны, мінімум, да прыёму нічога ня есьці). За 15-20 хвілін да яды, па магчымасьці — праз роўныя прамежкі часу, Напрыклад, у 7, у 14 і ў 21 гадзіну.

Усе 15-20 хвілін ад прыёму лякарства да яды катэгарычна забараняецца лякарсва чым-небудзь заядаць ці запіваць: ад гэтага залежыць паўната ўсмоктваньня алею. Можна ў гэты час штонебудзь пажаваць ці прапаласкаць рот вадою, але абавязкова ўсё потым выплюнуць, не глытаць.

Піць 10 дзён запар, пасьля першай і пасьля другой дэкадаў прыёму лякарства зрабіць перапынак на 5 дзён. Пасьля трэцяй дэкады (дзесяцідзёнкі) прыёму лякарства неабходны перапынак на два-тры тыдні, лепш — два тыдні, і далей паўтараць курс лячэньня такім-жа чынам хоць год, хоць два, да поўнага вылячэньня.

Зафіксаваць гэты момант могуць толькі афіцыйныя лекары-анколагі любымі мэтадамі дасьледаваньняў, якія ёсьць у іх распараджэньні. У 2-3-тыднёвыя перапынкі паміж курсамі лячэньня можна паказацца афіцыйным лекарам-анколагам і прайсьці любыя абсьледаваньні па іх і вашаму выра шэньню: УЗІ, рэнтген, тамаграфію, у тым ліку і кампютэрную, эндаскапічныя біяпсыйныя, ізатопныя і іншыя дасьледаваньні.

Пасьля кожнай дэкады лячэньня рабіце клінічны разгорнуты аналіз крыві з пальца, узважвайцеся (можна і на хатніх падлогавых вагах). Часовыя хістаньні аналізаў і вагі цела ў пачатку лячэньня могуць быць. Але дастаткова хутка, за месяц-другі, пачнецца пастаяннае паляпшэньне ўсіх паказчыкаў. У перапынках паміж прыёмамі лякарства — проста адпачывайце, ніякіх іншых проціракавых мэтадаў лячэньня прымаць нельга: ніякіх “бальзамаў”, “цудадзейных вітаміна-мікраэлемэнтных прэпаратаў і г. д. Паверце! І па веры Вашай адплаціцца Вам. ‘Весьнік’

* **Рост насельніцтва на Зямлі перасягнуў усе магчымыя меркі — складае 100 мільёнаў чалавек на год. Іншымі словамі, кожны месяц зьяўляецца яшчэ адзін Нью-Ёрк, кожны год — яшчэ адна Мэксіка, кожнае дзсяцігодзьдзе — яшчэ адзін Кітай. 95% гэтага прыросту адбываецца ў бедных краінах трэцяга сьвету, якія ўжо мусяць змагацца за месца працы і самыя звыклыя ўмовы жыцьця для сваіх грамадзянаў.**

Колькі ня пі, рускім ня станеш...

На Беларусі —
“Сьвіньні зводзяцца, а
сьвінства плодзіцца!”

**Ванкарэм Нікіфаровіч (ЗША)**

# Вобразы Беларусі – у Чыкага

У апошнія гады ўсё большую і большую вядомасьць набывае ў Чыкага і яго паўночных прыгарадах Першая беларуская галерэя, гаспадарамі якой з'яўляюцца Соня і Леанід Асеньнія. Нядаўна пад назовам "Класіка беларускага мастацтва" там адкрылася выстава, у якой сабраны творы з іх асабістага збору, а таксама з прыватных калекцый некаторых асобаў, што прыехалі сюды з Беларусі. Экспазіцыя знаёміць з амаль пяцідзесяцьцю творамі жывапісу і графікі дзесяці аўтараў, кожны з якіх унёс свой прыкметны творчы ўклад у станаўленьне і разьвіцьцё беларускага выяўленчага мастацтва.

Высокім ўзроўнем класічнага майстэрства зьвяртаюць на сябе ўвагу на выставе перш за ўсё працы Хаіма Ліўшыца (1912 – 1994), выдатнага жывапісца і педагога, які апошнія гады свайго жыцьця жыў і працаваў у Чыкага. У цэнтры экспазіцыі – яго вялікае шматфігурнае палатно "Пасьля працы", на якім – група жанчын-сялянак, якія на зыходзе сонца ўмываюцца на беразе лясной рачулкі… Карціна з'яўляецца пэўным узорам спалучэньня кампазіцыйнага і каларыстычнага рашэньня ў фігуратыўным жывапісу. Сорак гадоў, да сваіх апошніх дзён мастак працаваў над ёй, робячы шматлікія эцюды і накіды, ствараючы яе розныя варыянты. І сёньня, гледзячы на гэту карціну, мы адчуваем незвычайную любоў мастака да гэтых простых людзей, яго замілаванасьць прыгажосьцю прыроды, яе лірызмам.

Цікавыя і іншыя жывапісныя працы Хаіма Ліўшыца, што мы бачым на гэтай выставе, такія як "Рака Ісрач", "Вярба", "Партрэт жонкі", "Ускраіна Менску", "Вясковы дом" і іншыя. Пошукі эмацыянальнай выразнасьці чытаюцца ў параўнаўча мала вядомых яго карцінах "Нацюрморт з вязкай цыбулі", "Нацюрморт з гладышамі", "Атрыбуты мастацтва". Кампазіцыйная завершанасьць, што ідзе ад клясічных традыцыяў, спалучаецца тут з экпрэсіўнасьцю, блізкай да самых сучасных стыляў. У кожнай карціне Хаіма Ліўшыца мы адчуваем усхваляваную прысутнасьць мастака, яго зацікаўлены пагляд, яго роздум аб натуры, яго стаўленьне да яе.



На рэпрадукцыях: 1.Хаім Ліўшыц. "Куток Віцебска".

Сапраўдным адкрыцьцём для многіх сталі беражліва захаваныя Леанідам Асеньнім творы не падобнага да многіх беларускага мастака Міколы Тарасікава (1908 – 1965). Выхаванец, як і Хаім Ліўшыц, Віцебскай мастакоўскай школы, Мікола Тарасікаў ішоў у жывапісу і графіцы сваім шляхам, прагна ўбіраючы ўсе новыя стылістычныя плыні. Да напісаных тэмпераў і акварэльлю яго пэйзажах "Слонім", "Бераг мора", "Каменьне" "Беларуская хата" і іншых, што экспануюцца на гэтай выставе, прываблівае іх тонкая каляровая гама, узрушаная эмацыянальнасьць; здаецца, што чуеш шматлікія гукі прыроды… Строгі лаканізм і яскравая выразнасьць вылучае графічныя аркушы Міколы Тарасікава, такія як "Полацак", "Лодкі", "Кіеўскі пейзаж". Сёньня нават не верыцца, што ўсе гэтыя творы пісаліся паўстагодьдзя таму, у краіне, дзе насаджаліся зусім іншыя эстэтычныя рэгляментацыі. Мастака тады вінавацілі ў так званым фармалізме, але ён заставаўся верным сабе, сваім творчым пошукам.

Непаўторны ў сваёй жывапіснай манеры Яўген Красоўскі (1908 – 1980), яшчэ адзін прадстаўнік Віцебскай школы. Яго пейзажы "Дубы", "Краявід Сафіі" вызначаюцца глыбінёй і аб'ёмнасьцю, перадачай прыгажосьці прасторы лёгкім, нібы асцярожным, часам



2. Мікола Тарасікаў. "Слонім".

кропкавым мазком. У карцінах "Караблі", "Бераг" манера маляваньня алеем у яго ўжо крыху інакшая, больш шырокая, адкрыта-празрыстая. Двума цікавымі партрэтамі прадстаўлены на гэтай выставе мастак Абрам Забораў (1911 – 1985), па адным



3. Май Данцыг. "На аўтобусным прыпынку".

творы -- такія арыгінальныя беларускія мастакі, як Анатоль Тычына (1897 – 1986), Леў Лейтман (1896 – 1974) і малавядомы, але вельмі таленавіты Абрам Вайнштэйн.

Зачароўвае сваёй надзвычай усхваляванай і лірычнай перспектывай "Беларускі пейзаж" мастака Сяргея Каткова (1911 – 1976), вядомага мастака-педагога, які выхаваў многіх выдатных майстроў беларускага жывапісу (студыю выяўленчага мастацтва ён вёў у Менску з 1937 году). На гэтай выставе мы як раз бачым і творы яго вучняў. У карціне Мая Данцыга "На аўтобусным прыпынку" – напружаны, нібы звонкі колер, нечаканае кампазіцыйнае рашэньне. Таксама кампазыцыйна цікавы яго "Нацюрморт з рыбай". У раньнім пейзажы Барыса Заборава, які сёньня жыве ў Парыжы і працуе зусім у інакшай творчай манеры, угадваецца яго імкненьне да графічнасьці, да пошукаў эмацыянальнасьці ў колеры.

Дзьве залі гэтай галерэі нібы пераносяць нас туды, на тую зямлю, дзе нарадзіліся і дзе раслі, у тыя лясы і палі, гарады, сёлы і мястэчкі… "Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе ня маю сілы…" – не выпадкова менавіта гэтыя радкі сустракаюць вас, калі вы заходзіце ў галерэю Соні і Леаніда Асеньніх. Але значэньне чыкагскай выставы "Класіка беларускага мастацтва" бачыцца хутчэй не ў настальгічным матыве, а ў напамінку пра наяўнасьць у нашым выяўленчым мастацтве здабыткаў на ўзроўні найвышэйшых эстэтычных дасягненьняў сусьветнай культуры.

## ТОЕ — СЁЕ...

Паводле габрэйскіх ды каталіцкіх крыніцаў, якія займаюцца дасьледваньнем перасяленьня людзей з краін былога Савецкага Саюзу, — да гэтае пары пасяліліся так званыя новыя эмігранты: У Нью Ёрку — 100.000, Чыкаго — 60.000, Портлянд — 50.000, Бастон — 35.000, Сан Францыско — 14.000, Балтымор — 10.000, Маямі — 10.000 і так далей...

==========

Вайсковая калегія Вярхоўнага суду Расеі распачала паседжаньне ў справе рэабілітацыі кіраўніка сталінскага НКВД, Лаўрэнцproperly Бэрыі. Ён быў правай рукой Сталіна і нясе адказнасьць за сьмерць і прасьлед мільёнаў людзей. Ініцыятарамі рэабілітацыйнага працэсу Бэры, забітага пасьля сьмерці Сталіна ў 1953 годзе, зьяўляецца яго сям'я, а ў першую чаргу сын Сяргей Гігічкоры...

Бэрыя ў людзкой памяці назаўсёды застанецца галоўным выканаўцам сталінскай палітыкі тэрору.

==========

Стала ведамым, што Павал Шыпук і Анатоль Малафееў атрымалі афіцыйныя запросіны на сусьветнае спатканьне спікераў парлямэнтаў. Гэтая імпрэза адбудзецца 1-га верасьня ў штабкватэры ААН у Нью Ёрку.

Прадбачыцца, што на цырымоніі адкрыцьця гэтага збору выступіць з прамоваю Генэральны сакратар ААН Кофі Аннан.

спадары Шыпук і Малафееў рэпрэзэнтуюць акупацыйна-дыктатарскі рэжым Рэспублікі Беларусь.

Цікава, што думае пра гэта беларуская калёнія Нью Ёрку?..

==========

Прэзыдэнцкая адміністрацыя і МЗС Беларусі поўным ходам вядуць падрыхтоўку да "Саміту тысячагодзьдзя" кіраўнікоў дзяржаваў, — чальцоў ААН.

Саміт пройдзе 6 — 8-га верасьня ў штабкватэры ААН у Нью Ёрку.

Выступленьне А. Лукашэнкі на саміце плянуецца шостым па ліку. Дэлегацыя Беларусі таксама прыме ўдзел у працы 4-х "круглых сталоў".

Ці ведаюць у кватэры ААН, што прэзыдэнцтва А. Лукашэнкі скончылася ў мінулым годзе?..

==========

Яшчэ раз паведамляецца,
што ананімных лістоў і допісаў мы не публікуем.
Падобная практыка нам чужая...

## Памяць абмеркаваньням не падлягае

Помнік ахвярам Галякосту адкрыты ў панядзелак у Менску. Манумэнт устаноўлены на мейсцы, якое традыцыйна называюць Менску "Ямаю", дзе 2 сакавіка 1942 году было зьнішчана каля 5 тысячаў габрэяў – вязьняў гета. Помнік ствараўся цягам 8 гадоў. Фінансавую падтрымку забясьпечылі Фэдэрацыя габрэйскіх грамадаў СНД, пасольства Ізраілю ў Беларусі й шэраг грамадзкіх арганізацыяў краіны.

# Аляксей (Алесь) Грыцук

*Постаць А. Грыцука – грамадзкага дзеяча, гісторыка, літаратуразнаўцы, настаўніка ёсьць мала вядома шырэйшаму грамадзтву на Беласточчыне, паколькі ды сама найнавейшая гісторыя Беларусаў Беласточчыне шырэй дасьледуецца толькі што ў апошнім дзесяцігодзьдзі.*

*А. Грыцук нарадзіўся 3 ліпеня (паводле новага стылю) 1910 г. у вёсцы Міхнаўка каля Старога Ляўкова. Бацькі Юльян ды Хрысьціна мелі вялікую гаспадарку, а таксама паравы млын у суседнім Старым Ляўкове. У іхняй с'ямі было чатырох сыноў і пяць дачок. Усе сыны атрымалі акуратную адукацыю. Аляксей закончыў вядомую настаўніцкую сэмінарыю ў Сьвіслачы. Пасьля заканчэньня вайковай службы ў Лідзе (дзе адмовіўся пакінуць праваслаўнае веравызнаньне, якое магло пашкодзіць ягонай прафэсійнай кар'еры) пачаў працу настаўніка ў гімназіі на Віленшчыне ў Браславе. Адначасна ў 1938 г. закончыў завочна гістарычны факультэт Варшаўскага Унівэрсытэту. У верасьні 1939 г. прымаў удзеў у баях падчас абароны Варшавы. Стаў паручнікам. Быў цяжка ранены. Калі прыйшлі Немцы ў Варшаву, уцёк са шпіталя для ваеннапалонных. Вярнуўся ў родную вёску. Па 1941 г. праўдападобна працаваў настаўнікам ды адначасова вучыўся ў пэдагагічным вучылішчы ў Беластоку.*

*Грамадзкую актыўнасьць на беларускай ніве пачаў праяўляць падчас нямецкай акупацыі. Стаў членам Беларускага Камітэту ў Беластоку, а ў палове 1943 г. – пасьля стварэньня акупацыйнымі ўладамі Галоўнага Школьнага Інспэктарату – стаў яго кіраўніком. Разгарнуў шырокую дзейнасьць у неспрыяльныя, перад усім эканамічна, гады. Пачаў адраджаць ды нанава арганізаваць беларускае школьніцтва. У кароткі час удалося адрадзіць ды сарганізаваць каля 80 школ на Беласточчыне. Іх дзейнасьць працягвалася па 1946 г., калі былі зачыняны новымі польскімі ўладамі.*

*У палове 1944 г. падаўся на захад. У Нямеччыне стаў асьветным афіцэрам Беларускай Краёвай Абароны. А пасьля паражэньня III Рэйха, пачаў арганізаваць беларускае грамадзка-культурнае ды рэлігійнае жыцьцё ва ўкраінскім лагеры*



*ў Lexenfeld-Salzburg (Аўстрыя). Разам з іншымі беларускімі выхадцамі, ваеннапалоннымі, колішнімі прымусовымі работнікамі сарганізаваў Беларускі Камітэт у Аўстрыі. Быў яго старшынёй. Між іншым з паэтамі Алесем Салаўём, Уладзімірам Дудзіцкім пачаў выдаваць часопіс „Пагоня. Зь беларускага жыцьця". У гэтай працы памагалі ім Мікола Ганько, Адольф Губар ды будучая ягоная жонка Вольга Дуброўская родам зь Дзісны на Віленшчыне.*

*Пасьля ліквідацыі лагеру, у 1948 г. вырашыў падацца ў Канаду. Пачынаў там сваё жыцьцё ад працы лесаруба на далёкай поўначы. Аднак хутка вырашыў нанава вучыцца, аж у палове 60-ых гадоў закончыў унівэрсытэт у Атаве. А ў 1975 г. абараніў доктарскую (кандыдацкую) дысэртацыю на тэму творчасьці Максіма Багдановіча. Ад пачатку пяцідзесятых гадоў актыўна ўключыўся у грамадзкае, рэлігійнае, культурнае жыцьцё беларускай эміграцыі ў Канадзе. Даў пачатак многім ініцыятывам. Між іншым вельмі спрычыніўся пры заснаваньні, пакупцы першага беларускага дому ў Таронце пры Dundas Street West. Некалькі разоў быў старшынёй Згуртаваньня Беларусаў Канады, сакратаром канадзкага аддзелу Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Ягоная сям'я, жонка Вольга, дачка Юльяна прымалі ды прымаюць актыўны ўдзел у жыцьці Беларусаў Канады.*

*У канцы 1975 г., калі ўжо меў перайсьці на пэнсію, раптоўна захварэў ракам. Памёр 30.05.1976 г. Пакінуў трывалы сьлед у жыцьці беларускай эміграцыі. Варта было б, каб ягонае імя было таксама шанавана на ягонай бацькаўшчыне, на Беласточчыне.*

***Вячаслаў Харужы***

"Часопіс"

**ДАПАМАГАЙЦЕ БЕЛАРУСІ Ў ЗМАГАНЬНІ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, СВАБОДУ І ПРАЎДУ!**

# Дзе ў свеце жывуць беларусы?

Акрамя Беларусі, дзе яны складаюць блізу 80 адсоткаў, найбольш кампактна беларусы жывуць на Беласточчыне, Віленшчыне, Латгальшчыне, Пскоўшчыне, Смаленшчыне і Браншчыне. Але варта зазначыць, што яны там не эмігранты, а спрадвечныя жыхары на сваёй этнічнай тэрыторыі, на сваёй зямлі.

Пакідаць радзіму беларусаў вымушалі розныя прычыны, але перадусім эканамічныя і палітычныя. Найбольш масавая эміграцыя пачалася пры канцы XIX стагоддзя. Паскоранае развіццё капіталізму абумовіла тады міграцыю сялян і дробных вытворцаў дзеля лепшага заробку і набыцця зямлі. Сотні тысяч беларусаў перазязджалі ў Сібір, у буйныя прамысловыя гарады Расеі (гэтак, толькі за перыяд з 1896 да 1912 года ў Сібір перасяліліся з Беларусі 717 тысяч чалавек). За межамі Расейскай імперыі нашых суайчыннікаў найбольш прыцягвалі Злучаныя Штаты Амэрыкі, Канада, Аргентына і Бразылія.

Першая сусветная вайна, гвалтоўная эвакуацыя, рэвалюцыя і бальшавіцкія рэпрэсіі раскідалі масы нашых людзей па абшарах Расеі.

Жорсткасць і помслівасць савецкай улады прымусіла стваральнікаў і актыўных прыхільнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі падацца на эміграцыю ў Летуву, Латвію, Польшчу, Чэхаславаччыну і Нямеччыну.

У міжваенным перыядзе (1921-1939 гады) дзесяткі тысяч выхадцаў з Заходняй Беларусі ў пошуках лепшае долі накіраваліся ў Канаду, Аргентыну, Уругвай, Парагвай і Бразылію.

У часе Другой сусветнай вайны больш за 300 тысяч беларусаў апынулася ў Нямеччыне, Аўстрыі ды іншых заходнеэўрапейскіх краінах. Многія з іх затым перасяліліся ў ЗША, Канаду і Аўстралію, утварыўшы новыя цэнтры беларускай эміграцыі.

За мяжою засведчылі сваю жыццяздольнасць арганізацыі нашых суродзічаў "Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі", «Згуртаванне беларусаў у Канадзе», «Беларуска-амерыканскае задзіночанне», «Беларускае аб'яднанне ў Аўстраліі», «Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі», 'Беларускі Кангрэсавы Камітэт" ды інш. Найбуйнейшымі цэнтрамі навукова-культурнага жыцця эміграцыі сталіся Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку (выдае навуковыя «Запісы»), Беларуская бібліятэка і музей імя Ф.Скарыны ў Лондане... ььььььььььььььььь Згуртаванню беларусаў на эміграцыі, развіццю іх нацыянальнай сведамасці і культуры спрыяюць і папулярныя перыядычныя выданні, сярод якіх найбольш значныя газэты "Беларускі Дайджэст" і «Беларус» (Нью-Ёрк, выдаецца з 1950 года) ды часопіс «Беларуская думка» (Саўт-Рывэр, з 1960 года).

Беларуская эміграцыя дала свету таленавітых спевакоў (Пётра Конюх, Міхась Забэйда-Суміцкі, кампазітараў (Мікола Равенскі, Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Эльза Зубковіч), мастакоў (Віктар Жаўняровіч, Уладзімір Шыманец, Зміцер Чайкоўскі), паэтаў (Наталля Арсеннева, Алесь Салавей, Масей Сяднёў ды інш.). У сем'ях беларускіх эмігрантаў нарадзіліся і Алія Клеч (Пашкевіч) - вядучы мастак «Дыснэйленду», і Ўэйн Грэцкі - «зорка» паўночнаамерыканскага хакею...

## *У нямецкай газэце Die Tageszeitung зьявіўся*

*артыкул Барбары Эртэль «Аўтакратычны выбар», у якім разглядаюцца пэрспэктывы арганізоўваных менскім рэжымам выбараў у створаныя Лукашэнкам заканадаўчыя органы.*

На 15 кастрычніка Аляксандар Лукашэнка прызначыў выбары ў новы беларускі парлямэнт, паведамляе чытачам газэты Die Tageszeitung Барбара Эртэль. Але паводле нядаўна прынятага і дзейнага сёньня выбарчага закону, выходзіць так, што людзям можна болей не сьпяшацца на выбарчыя ўчасткі, бо вынік выбараў вызначаны ўжо загадзя. Як і ў папярэдняй «палатцы», сьпіс дэлегатаў якой складаў сам Лукашэнка, у новым парлямэнце абсалютную бальшыню таксама складуць ягоныя прыхільнікі.

Якраз гэтую праблему сёньня і вымушаная вырашаць міжнародная супольнасьць. Ужо некалькі месяцаў розныя эўрапейскія структуры спрабуюць пасадзіць за стол перамоваў прадстаўнікоў беларускай апазыцыі і ўраду і тым самым забясьпечыць хоць мінімальныя дэмакратычныя стандарты выбараў.

Аднак дагэтуль, паводле вобразнага выслоўя аўтаркі артыкулу ў газэце Die Tageszeitung , заходнім пасярэднікам даводзілася толькі грызьці граніт непахіснасьці аўтакратычнага рэжыму. Апазыцыя не дапускаецца да ўдзелу ў выбарчых камісіях, ёй забаронены доступ да электронных мэдыяў, а асобы, якія некалі траплялі ў канфлікт з уладамі, аўтаматычна пазбаўленыя пасіўнага выбарчага права.

Асабліва ж у АБСЭ баліць галава з-за пытаньня, ці не легітымізуе гэткі выбарчы фарс прысутнасьць на выбарах міжнародных назіральнікаў. Адказ на гэтае пытаньне ня знойдзены й дагэтуль.

Што да апазыцыі, дык яна ўжо перакананая ў тым, што дыялёг паміж яе прадстаўнікамі і ўладай немагчымы. Яная заклікала да байкоту выбараў. «У нас хворыя прымаюць пастановы, а лекароў ніхто не пытаецца. І раптам апазыцыя мусіць выступаць у ролі тэрапэўта. Мы ў гэтым фарсе ўдзельнічаць ня будзем», - заявіў колішні старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

На думку некаторых назіральнікаў, калі б апазыцыя найстойвала далей на байкоце, дык яна б страціла пэўныя шанцы. няўдзел у выбарах мог бы таксама сустрэць неразуменьне ў насельніцтва. Паводле апытаньня, праведзенага нядаўна лябараторыяй НОВАК, 89% апытаных выказваюцца за правядзеньне справядлівых выбараў на альтэрнатыўнай аснове. Разам з гэтым, большасьць апытаных прагаласавала б на прэзыдэнцкіх выбарах за Лукашэнку як за адзінага вядомага ва ўсёй краіне палітыка. Гэты адказ апытаныя абгрунтоўваюць тым, што кіраўнік дзяржавы «клапоціцца аб дабрабыце людзей».

**Сяргей Шупа, Вільня**

## Беларускія апазыцыйныя партыі паведамілі,

што збайкатуюць парлямэнцкія выбары, заплянаваныя Аляксандрам Лукашэнкам на 15 кастрычніка. У прынятай заяве 9 асноўных партыяў апазыцыі напісала, што восеньскія выбары будуць чарговым фарсам па прыкладзе выбараў у Савецкім Саюзе, і ў сувязі з гэтым апазыцыя адмаўляецца ад удзелу ў іх. Лукашэнка амаль самастойна кіруе Беларусяй з 1996 году, калі распусьціў дэмакратычна абраны парлямэнт і замяніў яго ўласным, цалкам сабе падпарадкаваным. Цяпер Лукашэнка лічыць, што восеньскія выбары будуць справядлівымі, аднак адначасова ён выключае прысутнасьць на іх незалежных назіральнікаў. Урад кіраўніка Беларусі падрыхтаваў ужо сьпіс кандыдатаў у дэпутаты.

## *Лідэр Аб'яднанае Грамадзянскае партыі*

*Анатоль Лябедзька зьвярнуўся з адкрытым лістом да генэральнага пракурора Беларусі Алега Бажэлкі. Лябедзька абвінавачвае генэральную пракуратуру ў бязьдзеяньні ў справе пошуку зьніклых Захаранкі, Ганчара, Красоўскага й Завадзкага, што, на думку апазыцыянэра, спрыяе пашырэньню ў краіне палітычнага тэрарызму.*

"Вы ведаеце чаму ў Беларусі бязьсьледна зьнікаюць палітыкі й журналісты?", – задае пытаньне ў пачатку свайго адкрытага ліста Алегу Бажэлку Анатоль Лябедзька. І сам жа дае адказ: "Таму, што ў Беларусі ёсьць законы, але няма законнасьці, і таму законы ператвараюцца ў макулатуру".

У якасьці прыкладу таго, што беларуская пракуратура ня робіць нічога, каб знайсьці і пакараць тых, хто захоплівае апазыцыянэраў, Анатоль Лябедзька прыводзіць факт свайго затрыманьня невядомымі асобамі ў цывільным 25 сакавіка сёлета. Тады Лябедзьку разам з намесьнікам галоўнага рэдактара газэты "Свободные новости" Аляксандрам Тамковічам затрымалі літаральна за 30 мэтраў ад міліцэйскага пастарунку. Паводле словаў лідэра АГП, нападнікі дэманстравалі паводзіны прафэсійных баевікоў, што спэцыялізуюцца на выкраданьні людзей.

Анатоль Лябедзька зьвярнуўся ў пракуратуру Савецкага раёну Менску з патрабаваньнем узбудзіць крымінальную справу. І толькі праз тры месяцы атрымаў адказ ад раённага пракурора спадара Сіраша, які без усялякай матывацыі адмовіўся заводзіць крымінальную справу. "Да якога ведамства належалі тыя баевікі, хто даў ім права хапаць людзей і чаму пракуратура не жадае выявіць асобы нападнікаў?", – гэтыя пытаньні Анатоль Лябедзька адрасуе непасрэдна генэральнаму пракурору.

Анатоль Лябедзька абвінавачвае ведамства спадара Бажэлкі ў несамастойнасьці ды абслугоўваньні інтарэсаў г.зв. "чырвонага дому", ці адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі. На думку спадара Лябедзькі, бязьдзейнасьць пракуратуры толькі заахвочвае палітычны тэрарызм і апэтыты баевікоў.

Разам з тым, ён нагадвае Бажэлку, што, калі б генэральная пракуратура сапраўды правяла аб'ектыўныя дасьледваньні фактаў нападаў і зьнікненьня людзей, гэта б паспрыяла ўмацаваньню гэтак званага "пэрыяду міру", абвешчанага Аляксандрам Лукашэнкам і гучна разрэклямаванага напярэдадні г.зв. "выбараў".

У генэральнай пракуратуры пакуль аніяк не адрэагавалі на пасланьне Анатоля Лябедзькі. Разам з тым, прэсавы сакратар гэтага ведамства Аляксей Таранаў паведаміў, што пракурорскія супрацоўнікі займуцца спраўджаньнем выкладзеных у адкрытым лісьце фактаў і праз некалькі дзён дадуць Анатолю Лябедзьку афіцыйны адказ.

**Альгерд Невяроўскі, Менск**

## У Польшчы будзе адкрыты доступ да сакрэтных дасье

Польскае інфармацыйнае агенцтва паведаміла, што ў наступным годзе ў тых грамадзянаў Польшчы, хто стаў ахвярамі рэпрэсіяў пад час панавання камуністычных ідэяў, з'явіцца доступ да сабраных на іх сакрэтных паліцэйскіх дасье. У самой Польшчы меркаванні на конт ідэі абнародавання сакрэтных файлаў падзяліліся. Некаторыя з іх, найбольш актыўныя ў мінулым камуністы, лічаць, што ў дакументах утрымліваецца незаконная і непраўдзівая інфармацыя. Прэзідэнт краіны Аляксандр Квасьнеўскі, былы камуніст, наклаў вета на гэты закон, аднак парламент пераадолеў яго ў мінулым годзе. Прадстаўнікі руху «Салідарнасць» мяркуюць, што сакрэтная інфармацыя абавязкова павінна стаць адкрытай, нават калі члены ўрада або іншыя вядомыя палітычныя фігуры стануць ахвярамі магчымых судовых працэсаў.

## Інтэграцыя па-расейску

Лідэры васьмі фракцыяў Дзяржаўнае думы Расеі падпісалі зварот да Аляксандра Лукашэнкі з заклікам мадэрнізаваць беларускае выбарчае заканадаўства.

"Мы надаем вялікае значэньне разьвіцьцю стасункаў паміж нашымі дзяржавамі й памацненьню інтэграцыйных працэсаў, – гаворыцца ў звароце расейскіх палітыкаў, якія мяркуюць, што інтэграцыя паміж дзьвюма краінамі павінная спрыяць уніфікацыі заканадаўства, у тым ліку ў галіне выбарчага права. У звароце расейскіх палітыкаў пералічаныя асноўныя прынцыпы, паводле якіх трэба мадэрнізаваць беларускае выбарчае заканадаўства – адкрытасьць і празрыстасьць, публічнасьць (роўны доступ усіх палітычных суб'ектаў да дзяржаўных СМІ) й фармаванне выбарчых камісіяў з удзелам усіх зарэгістраваных палітычных партыяў. Подпісы пад зваротам паставілі лідэры фракцыяў "Адзінства", "Айчына – уся Расея", "Саюзу правых сілаў", "Яблоко", фракцыі Лібэральна-дэмакратычнае партыі Расеі, аграпрамысловае дэпутацкае групы, а таксама дэпутацкіх групаў "Рэгіёны Расеі" й "Народны дэпутат". Адмовіўся ад падпісаньня звароту лідэр фракцыі КПРФ Генадзій Зюганаў.